

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 10(69) Кастрычнік 1999 October Год выд. 7.


## ЖЫЦЬЦЁ "А ЛЯ ЛУКАШЭНКА" «НАВІНЫ»

Прэзідэнт Беларусі ў сваім жаданніаднавіць цэнтралізаваную эканоміку давёў краіну да знішчальнага крызісу. Сваіх жа апанентаў ён трымае ў цуглях з дапамогай рэпрэсіяў.

«OST IN WEST» (пераклад Мікіты ПАЎЛАВА)

**Хоць афіцыйная беларуская статыстыка і гаворыць аб дасягнутым за апошні год эканамічным росце ў 8% і аб тым, што валавы нацыянальны прадукт у першай палове 1999 года павінен павялічыцца на 2%, на самой справе афіцыйныя лічбы проста імкнуцца хоць трохі ўпрыгожыць рэальнасць, якая зусім не так прывабная. Выдуманыя поспехі з'яўляюцца вынікам уліванняў танных крэдытаў у кіруемую дзяржавай эканоміку, якія ў сваю чаргу забяспечваюцца грашовай эмісіяй. Жорсткі кантроль цэнаў і ўвядзенне нормаў водпуску на асноўныя прадукты харчавання пагоршылі і без таго цяжкае становішча сектара забеспячэння, што шматгадзінныя чэргі зноў становяцца штодзённай рэальнасцю для 10 мільёнаў беларусаў.**

**«400 доляраў» ад Пракаповіча**

І зноў задаецца пытанне: хто ў гэтым вінаваты? І чаму ніхто ў кіраўніцтве не патрабуе афіцыйнай змены палітычнага курсу? Таму што ніхто не жадае падзяліць лёс былога кіраўніка Нацбанка Беларусі Тамары Віннікавай ці былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра, якія былі ўзятыя пад стражу. Але ў Мінску ўсё часцей пагаворваюць аб тым, што крэсла пад цяперашнім кіраўніком Нацбанка Пятром Пракаповічам, надзейным саратнікам прэзідэнта, пачынае хістацца.

Пракаповіча лічаць бацькам беларускай эканомікі новага напрамку «а ля Лукашэнка». У 1996 годзе, яшчэ да таго, як ён стаў кіраўніком Нацбанка і з'яўляўся толькі старшынёй Камісіі па жыллёвым пытанні, у адным з дакладаў прэзідэнту ён прапанаваў мадэль будучага развіцця беларускай эканомікі да 2000 года. Пракаповіч абяцаў бліскучыя перспектывы развіцця і запэўніваў, што сярэдні месячны даход насельніцтва Беларусі будзе складаць 400 доляраў ЗША. Усяго гэтага ён збіраўся дасягнуць з дапамогай значнай грашовай эмісіі. Павелічэнне грашовай масы, па меркаванні Пракаповіча, павінна было адбыцца наступным чынам: Нацбанк крэдытуе прадпрыемствы, каб стымуляваць выпуск прадукцыі і прыцягнуць да іх увагу замежных і мясцовых інвестараў, якія і павінны былі забяспечыць павелічэнне грашовай масы ў РБ. Лукашэнку спадабалася гэтая ідэя, і ён хуценька зрабіў Пракаповіча старшынёй Нацбанка.

**Страты — 500 мільёнаў доляраў**

Абсурдныя ідэі Пракаповіча здолелі ажыццявіцца восенню 1996 года, калі Лукашэнка адправіў у адстаўку ўвесь парламент. На далейшае развіццё налажыла адбітак планавая цэнтралізаваная эканоміка, і Нацбанк адыграў пры гэтым адну з галоўных роляў. А дакладней, аб'ём крэдытаў Нацбанка павялічыўся з 7,5 більёнаў беларускіх рублёў у 1996 годзе да 19,2 більёна ў мінулым, 1998 г. Крэдыты выдаваліся пад працэнтную стаўку, якая была значна ніжэй за ўзровень інфляцыі.

Для нацыянальнай эканомікі Беларусі, якая імпартуе 96% сыравіны і энерганосьбітаў, адэкватнае павелічэнне экспарту было б, само сабой зразумела, вельмі пажаданым, каб фінансаваць экспарт сыравіны і энерганосьбітаў. Тое, што Пракаповіч чакаў значнага павелічэньня экспарту ў той час, калі як раз у дзевяностыя гады пачалося пранікненне замежных тавараў на рынак РБ, інакш кажучы, тавараў, з якімі беларуская прамысловасць проста не была здольная канкураваць, сведчыць толькі аб яго надзвычайнай наіўнасці.

Лічбы гавораць самі за сябе: калі ў 1992 годзе 33% беларускіх тавараў, якія ішлі на экспарт, прызначаліся для заходніх краінаў, а ў 1994 годзе гэтая лічба павялічылася да 41%, то за мінулы год яна паменшылася да 26%. Інакш кажучы, 74% экспартуемых Беларуссю тавараў накіраваныя ў краіны былога СНД. Знешні ж гандаль арыентуецца пераважна на Расію, за 1998 год 70% агульнага таваразвароту было так ці інакш звязанае з Расіяй. Вынікам усяго гэтага зьявілася тое, што фінансавы крызіс у Расіі зьявіўся прычынай значнага памяншэння беларускага экспарту. Так экспарт беларускай прадукцыі ў Расію паменшыўся ў параўнанні з ліпенем мінулага года на трэць, доля бартэрных здзелак адпаведна павялічылася з 30 да 51%.

«Страты, панесеныя беларускай эканомікай у выніку такой экспартнай палітыкі, склалі ўжо 500 мільёнаў доляраў ЗША», — так ацаніў вынікі расійскага крызісу для Беларусі мінскі эканаміст Леанід Зайко.

**Цана праўды — краты**

Сельская гаспадарка таксама не здольная пахваліцца вялікімі дасягненнямі. Хутчэй наадварот. Міністэрства сельскай гаспадаркі нядаўна было вымушанае пагадзіцца з тым, што ў першым квартале 1999 года аб'ём выраблена у Беларусі сельскагаспадарчай прадукцыі зменшыўся на 5% у параўнаньні з мінулым годам. «Згодна з інфармацыяй, якую я маю, толькі 57 з 2.500 саўгасаў больш-менш трымаюцца на плаву, астатнія церпяць страты», — сказаў нядаўна былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў.

Негатыўныя вынікі, дасягнутыя беларускай эканомікай, да якіх прывяла цяперашняя палітыка, на самой справе лёгка тлумачацца эканамічнымі правіламі. Адмоўны плацёжны баланс прывёў валютны рынак у хаос і вымусіў пазней Нацбанк прыбегнуць да валютнага рэзерву, каб выратаваць беларускі «зайчык».

Сярэдні месячны даход у Беларусі складае на сёньняшні дзень толькі 25 доляраў ЗША. Афіцыйны курс абмену раўняецца 265 тысячам беларускіх рублёў за адзін долар ЗША, хаця на «чорным рынку», які на самой справе зьяўляецца крытэрыем для насельніцтва, ён складае 510 тысяч і нават болей.

Як паведамляюць неафіцыйныя крыніцы з Нацбанка, Пётр Пракаповіч ужо даўно зразумеў, што праводзімая ім палітыка пацярпела паражэнне. Але як ён можа сказаць аб гэтым прэзідэнту так, каб самому не апынуцца за кратамі? Ні аб якой жа радыкальнай змене цяперашняй палітыкі не можа нават і гаворкі ісці. Цяпер Пракаповіч характарызуе так неабходную для Беларусі грашовую рэформу як «немагчымую на цяперашні час». Яго аргументы гучаць наступным чынам: перш-наперш трэба аб'яднацца з Расіяй, а ўжо потым праводзіць дома грашовую рэформу.

Цэнтрабанк Расіі разлічвае тым не менш на тое, што ў іх ёсць у запасе па меншай меры 8 гадоў — у выніку, калі так званы «славянскі саюз», які так актыўна прапагандуе Лукашэнка, калі-небудзь стане рэальнасцю. І без таго дэталі падпісанага зімой мінулага года Ельцыным і Лукашэнкам мемарандуму застаюцца невядомымі. І дагэтуль неяк не склалася ўражанне, што Масква сапраўды мае намер стварыць руска-беларускі саюз. Нядаўняя заява Крамля аб тым, што Саюз будзе сфармаваны к восені 1999 года, сведчыць толькі аб узрослым уплыве прабеларускіх сілаў у Расіі. І ў Беларусі, і ў Расіі выказваюць здагадкі, што Лукашэнка мае намер у будучым годзе, калі будуць праводзіцца выбары прэзідэнта Славянскага Саюза, вылучыць сваю кандыдатуру на гэтую пасаду.

**Заходнія «напевы»**

Цяжкае эканамічнае становішча і моцны націск апазіцыі вымушаюць Лукашэнку ў апошні час хваляваца аб наладжванні лепшых адносінаў з Захадам. Так, ён не так даўно звярнуўся непасрэдна ў Міжнародны валютны фонд з просьбай аб выдзяленьні крэдыту, зьвярнуўся ў арганізацыю, якую раней неаднаразова лаяў. Але яшчэ ў 1995 годзе МВФ спыніў сваю праграму крэдытавання Беларусі на аснове праведзенага аналізу эканамічнай і грамадскай палітыкі Беларусі. І дагэтуль МВФ не бачыць прычынаў, каб



● Дэманстрацыя 21 ліпеня ў Мінску: сітуацыя абвастраецца

аднавіць дапамогу Беларусі, бо Лукашэнка, як і раней, не згаджаецца адмовіцца ад цэнтралізаванага кіравання дзяржавай.

«Шагам наперад у напрамку рыначнай эканомікі» назваў Лукашэнка, які не так даўно характарызаваў прыватных прадпрымальнікаў як «вартых жалю блох», сваю ідэю стварэння Савета па развіцці прадпрымальніцтва, які, само сабой зразумела, павінен знаходзіцца пад пільным кантролем самога прэзідэнта. Неаднаразова хвалёная праграма прыватызацыі мае на ўвазе, што шэраг дзяржаўных і камунальных прадпрыемстваў будуць прададзеныя, каб набыць грошы для дзяржаўных патрэбаў. У Мінску гавораць, што Лукашэнка спадзяецца на дапамогу замежных інвестараў. Але дагэтуль, пакуль набыццё кантрольнага пакета акцыяў беларускіх прадпрыемстваў будзе забароненае замежным інвестарам, іх цікавасць да Беларусі будзе абмежаваная пэўнымі рамкамі. За мінулы год колькасць замежных інвестыцыяў значна зменшылася, а эканамічны крызіс у краінах СНД прывёў да таго, што тыя інвестары, якія чакалі, калі ж нарэшце пачнуць працаваць такія сапраўды перспектыўныя заводы, як фордаўскія, болей нават не мараць аб гэтым.

**Даніла Рыжыкаў**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЗВАРОТ
### Эўрапейскага Зьвязу...

*Зварот Эўрапейскага Зьвязу да беларускіх уладаў з заклікам зрабіць усё магчымае дзеля гарантаваньня бясьпекі Віктара Ганчара быў распаўсюджаны Фінляндыяй ад імя 15 краінаў-сябраў ЭўраЗьвязу і краінаў, якія прэтэндуюць на сяброўства ў гэтай арганізацыі. Да гэтай жа заявы ўжо далучылася Летува. Міністэрства замежных справаў Летувы дадаткова выказала заклапочанасьць арыштам былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхала Чыгіра...*

Фінляндыя, нагадаем, зараз старшынюе ў Эўрапейскім Зьвязе. Сёньня мы затэлефанілі ў Гэльсынкі й папрасілі пракамэнтаваць заяву ЭўраЗьвязу спадара Іро Каарынена, загадчыка аддзелу Эўрапейскага Зьвязу ў справах Усходняе Эўропы і Цэнтральнае Азіі. Вось што ён нам паведаміў:

(Каарынен:) "Некалькі дзён таму мы былі паведамленыя пра зьнікненьне спадара Віктара Ганчара, намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі. Пазаўчора Эўрапейскі Зьвяз правёў паседжаньне ў Брусэлі працоўнае групы ў справах Усходняе Эўропы й Цэнтральнае Азіі, і гэтая група вырашыла апублікаваць заяву ў справе спадара Ганчара. У заяве выказаная глыбокая заклапочанасьць Эўрапейскага Зьвязу зьнікненьнем спадара Ганчара. Эўрапейскі Зьвяз заклікае беларускія ўлады зрабіць усё магчымае каб знайсьці мейсцазнаходжаньне спадара Ганчара й гарантаваць ягоную бясьпеку. Эўрапейскі Зьвяз спадзяецца, што расьсьледваньне прынясе хуткія вынікі. эўрапейскі Зьвяз таксама нагадвае беларускім уладам, што абставіны ранейшых зьнікненьняў спадарыні Тамары Віньнікавай, былой старшыні Нацыянальнага банку, і гэнэрала Юрыя Захаранкі, былога міністра нутраных справаў дагэтуль невядомыя".

(Вядучая:) "Спадар Каарынен, ці спадзяецеся Вы, што беларускі ўрад неяк адрэагуе на гэты заклік?"

(Каарынен:) "Яны ўжо адрэагавалі, паведаміўшы дэлегацыю АБСЭ ў Менску, што паліцэйскае расьсьледваньне ўжо распачатае".

(Вядучая:) "Як Вы мяркуеце -- ці можа пачацца перамоўны працэс да высьвятленьня лёсу Ганчара?"

(Каарынен:) "Я лічу й спадзяюся, што гэтая справа павінна быць высьненая як найхутчэй, каб яна не адбілася адмоўна на заплянаваныя перамовы".

Алена Ціхановіч.




# КАРУПЦЫЯ, НЕРАЗЬБЯРЫХА І СКАНДАЛЫ...

***Карупцыйны скандал, у цэнтры якога апынуліся прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын ды ягонае блізкае атачэньне, ня толькі ня сьціхае, але й ставіць перад Захадам пытаньне – ці працягваць фінансавую дапамогу дэмакратычным рэформам у гэтай краіне? І калі працягваць – дык на якіх умовах?***

**Надоечы зьявілася рэкляма новага гатунку гарэлкі пад назовам "Сям'я". Налепка на бутэльцы ўпрыгожаная пэйзажам Крамлю й партрэтам Барыса Ельцына . Побач можна разгедзець выявы яшчэ пяці чалавек. Гэта дачка Ельцына Таццяна Дзячэнка, ейны муж Леанід, чыё імя фігуруе ў справе адмываньня расейскіх грошай, кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта Аляксандар Валошын, былы кіраўнік адміністрацыі Валянцін Юмашаў, а таксама прэзыдэнт кампаніі "Сибнефть" Раман Абрамовіч. Усе гэтыя асобы, разам зь Ельцыным вядомыя ў Расеі як "Сям'я". Подпіс пад рэклямаю гарэлкі зь іхнімі партрэтамі гучыць так – "Сапраўдная Атрута".**

**Пра гэткую рэкляму са спасылкаю на расейскі друк паведамляе брытанская "*Daily Telegraph*". Праўда, газэта сумняецца, ці йснуе такая гарэлка ў сапраўднасьці і ця ня ёсьць гэта новая ідэялягічная зброя ў атаках праціўнікаў Ельцына на Крэмль.**

**Тым ня менш, скандал, які атрымаў на Захадзе назву "Крэмленгэйт" і "Рашагэйт", даўно набыў нежартоўны характар. Ягоныя палітычныя наступствы выяўляюцца ўсё больш яскрава, асабліва ў палітыцы ЗША адносна Расеі.**

**Міністар фінансаў ЗША Лоўрэнс Самэрс і прэзыдэнт Усясьветнага банку Джэймс Вулфэнсан папярэдзілі ў аўторак расейскае кіраўніцтва, што яно ня можа разьлічваць на новыя крэдыты, пакуль Масква ня дасьць ясных тлумачэньняў у справе карупцыі. Абодва яны выступілі на слуханьнях у Кангрэсе ЗША адносна адмываньня расейскіх грошай.**

**Міністар фінансаў, аднак, падкрэсьліў, што хаця Амэрыка зацікаўленыя ў стратэгічным партнэрстве з Расеяй як зь ядравай дзяржаваю, карупцыя ў Расеі можа пагражаць нацыянальным інтарэсам ЗША.**

**Спадар Самэрс, у прыватнасьці, зазначыў:**

**"Расея атрымала вялікія праблемы, зьвязаныя з карупцыяй, у спадчыну ад заганнай эканамічнай сыстэмы савецкае эпохі. З таго часу яна ня здолела пабудаваць сыстэму, заснаваную на законнасьці ды законапаслухмянасьці. У выніку, карупцыя захавалася й застаецца вялікай праблемаю".**

**Джэймс Вулфэнсан заявіў, што Ўсясьветны банк, які даў Расеі крэдыт у 6 мільёнаў 800 тысячаў даляраў з абяцаных 10 мільёнаў 700 тысячаў, праверыў 34 праекты ў рамках гэтае дапамогі й не знайшоў доказаў незаконнага выкарыстаньня сродкаў.**

**Спадар Вулфэнсан сказаў таксама:**

**"Я лічу, што мы мусім зразумець Расею, зважаючы на тыя акалічнасьці, у якіх яна апынулася. Цягам дзесяці гадоў гэтая краіна ймкнецца да зьменаў, якіх яна ніколі ня ведала – а менавіта да дэмакратычнай формы кіраваньня й сыстэмы рынкавае эканомікі. На маю думку, было б няправільна прымусіць Расею ізноў адступіцца ад рынкавай эканомікі. Посьпех палягаў бы на тым, каб дапамагчы ёй дасягнуць мэты".**

**Былы міністар фінансаў ЗША Робэрт Рубін таксама выказвае на старонках "*The New York Times*" думку, што было б нерэалістычным чакаць ад Расеі, што пасьля 70-ці гадоў ліхалецьця яна пазбавіцца ўсіх камуністычных заганаў і пабудуе паўнавартасны дэмакратычны рынак цягам апошніх дзесяці гадоў.**

**Насамрэч, ацэньваць посьпехі гэтых пераўтварэньняў лепей было празь некаторы час, – піша Робэрт Рубін і працягвае, – Ясна, што Расея пабудавала далёка ня тую мадэль вольнага рынку, якую хацелася б бачыць. Аднак, варта было б памятаць і пра тое, што магло здарыцца ў Расеі, але не здарылася. У гэтай краіне паліцыя не сутыкаецца са скрайнімі праявамі нацыяналізму антызаходніцкага кшталту. Гэтая краіна ня ймкнецца вярнуцца назад, да аўтарытарнага ладу кіраваньня, характэрнага для камуністычнага рэжыму, што існаваў да 91-га году. І ў гэтай краіне няма панаваньня хаосу ды ўсеагульнай анархіі.**

**Брытанская "*Financial Times*" піша, што дапамога Расеі ня ёсьць дабрачынным актам – гэта адпавядае жыцьцёвым інтарэсам ЗША і міжнародных фінансавых арганізацыяў. Магчыма, Захаду цяжка дапамагчы Расеі, якая валодае ядравымі сіламі, спыніць ейнае спаўзаньне ў хаос. Але Захад мусіць паспрабаваць гэта зрабіць.**

**Дапамагчы Расеі інтэгравацца ў міжнародную эканоміку было б карысным для ўсіх, – піша газэта. Захад мусіць дапамагчы ўзброеным сілам Расеі ўтрымліваць свае ядравыя сілы пад кантролем. У дасягненьні гэтае мэты было б слушным выкарыстоўваць розныя эканамічныя мэханізмы, у тым ліку й фінансавую дапамогу.**

**Аднак, палітычныя лідэры, – лічыць "*Financial Times*", – мусяць даць ясна зразумець мэты гэтае палітыкі. Яны таксама мусяць быць вельмі ўважлівымі ў выбары інструмэнтаў дапамогі. Крэдыты МВФ, прызначаныя Расеі, павінныя выкарыстоўвацца толькі гэтай дзяржаваю і ніякімі іншымі.**

**Апошнюю заўвагу "*Financial Times*" можна аднесьці да сытуацыі, калі Расея, да прыкладу, эканамічна падтрымлівае дыктатарскі рэжым у Беларусі, і тым самым дыскрэдытуе ідэю падтрымкі Захадам дэмакратычных і рынкавых рэформаў.**

**Віталь Тарас, Прага**



Мы наш, мы новы саюз пастроім —
хто не з намі, той проціў нас...



«Звязда»

# Доўгі шлях да незалежнасці

Нягледзячы на пастаянную занепакоенасць, якая існуе ў патрыятычна настроенай часткі беларускага грамадства, вось ужо каторы год наша краіна з'яўляецца незалежнай і суверэннай. Шматгадовае імкненне беларусаў не быць ні пад Расіяй, ні пад Польшчай, ні пад якой іншай дзяржавай, а быць самастойнай нацыяй, гаспадарамі на ўласнай зямлі ўвасобілася ў рэальнасць толькі ў 90-х гадах. Але сама гісторыя станаўлення незалежнасці, шлях да яе вылічваецца дзесяцігоддзямі.

Вядома, хтосьці можа паспрачацца з гэтым сцвярджэннем, прапанаваўшы мне перачытаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага. Але пры гэтым кожны разумее, што з ВКЛ выйшлі некалькі сённяшніх дзяржаў, таму Вялікае княства было толькі правобразам, калі можна так сказаць, калыскай сучаснай Беларусі.

Між тым, першай значнай задакументаванай вяхой на гэтым шляху з'яўляецца дата 25 сакавіка 1918 года, калі з'явілася III Устаўная грамата, якая абвясціла незалежнасць і суверэнітэт Беларускай Народнай Рэспублікі. То была першая рэальная спроба нашай дзяржавы зацвердзіцца ў якасці раўнапраўнага суб'екта міжнароднай супольнасці. І гэта пры тым, што на тэрыторыю Беларусі прэтэндавалі Германія, Расія, Польшча, а таксама Украіна, Літва і Латвія, якія, зразумела, не маглі зміріцца са станаўленнем БНР

Сёння стаўленне да падзей 1918 года вельмі неадназначнае. І прычынай гэтага, несумненна, з'яўляецца тэлеграма кіраўніцтва БНР да Вільгельма II з просьбай узяць Беларусь «пад апеку германскай дзяржавы». Так, палітычная сітуацыя вакол Беларусі на той момант была настолькі складанай, што кіраўніцтва БНР было няздольнае ўтрымаць у сваіх руках дзяржаўную ўладу, пабудаваць незалежныя і ўплывовыя, іменна самастойныя, органы кіравання. Таму тагачасным ідэолагам беларускай дзяржаўнасці, на жаль, здавалася, што захаваць суверэнітэт можна толькі пад апекай іншай дзяржавы, пад крылом Германіі. Сёння мы разумеем, што гэта было вялікай памылкай, якая моцна скампраметавала ўсе памкненні ініцыятараў БНР. Таму зараз некаторыя палітычныя колы ў Беларусі імкнуцца нават адправіць факт заснавання і існавання БНР у нябыт. Тым не менш, 25 сакавіка ўвайшло ў беларускую гісторыю як першая спроба стварыць самастойную дзяржаву.

Пазней, 1 студзеня 1919 года, дарэчы, тады, калі фармальна існавала БНР, была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. БССР аказалася больш жывучым утварэннем, паколькі цалкам адпавядала геапалітычным інтарэсам Расіі. Такім чынам, у 1919 годзе ўжо перамаглі прыхільнікі беларускай аўтаноміі пад апекай Расіі. І менавіта рашэнне, прынятае ў 1919-м, вызначыла лёс Беларусі на далейшыя дзесяцігоддзі — ажно да пачатку 90-х. Пераважная частка нашых суайчыннікаў нарадзілася менавіта ў гэты перыяд, таму ў іх уяўленні незалежнасць Беларусі, як ні парадаксальна, атаясамліваецца менавіта з БССР, нягледзячы на тое, што яна была ўсяго толькі суб'ектам СССР.

Днямі рэдакцыя атрымала ліст ад беларуса па паходжанню Масея Сяднёва, які жыве ў ЗША. Ён сведчыць, што нашых суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны ў такой жа меры хвалюе лёс незалежнасці краіны. М. Сяднёў, разважаючы пра суверэнітэт Беларусі, таксама прыходзіць да высновы, што заходні і ўсходні накірункі аказалі вельмі моцны ўплыў не толькі на шлях нашай дзяржавы да самастойнасці, але і на само ўспрыманне нашымі суграмадзянамі ўласнай незалежнасці. «Нашы мацнейшыя суседкі — заходняя і ўсходняя, — піша ён, — на працягу стагоддзяў намагаліся дапасаваць нас да свайго светапогляду. І трэба сказаць, часам ім гэта ўдавалася... Існаванне ў дзвюх дзяржавах абумовіла і два накірункі ў падыходзе да пытання дзяржаўнага нацыянальнага будаўніцтва — заходні і ўсходні. Яны даюць сябе выразна адчуць і ў нашай сённяшняй нацыянальнай палітыцы. І процістаянне гэтых накірункаў набывае цяпер асаблівую вастрыню, выклікае ў нашым грамадстве разбежнасць і канфліктнасць у падыходзе да пытання беларускай дзяржаўнасці, што аніяк не спрыяе вырашэнню гэтага пытання».

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў гістарычны дакумент — Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. А сама дата была абвешчана Днём незалежнасці. Гэта стала, бадай, самай заўважнай вяхой на шляху станаўлення сённяшняй беларускай дзяржавы. У адрозненне ад многіх народаў, незалежнасць у гэты дзень была атрымана мірным шляхам. (Дарэчы, хто-ніхто іншы раз кажа, што менавіта таму мы, беларусы, і не цэнім яе належным чынам.) Мары беларусаў нарэшце збыліся: нас прызналі як самастойную краіну больш як 130 дзяржаў свету. Магчыма, на працягу некалькіх наступных гадоў хто-ніхто спадзяваўся, што гэты працэс не працягнецца доўга, што вецер волі павее год-два, а потым усё вернецца ў ранейшае рэчышча. Дзякуй Богу, гэтыя спадзяванні не збыліся.

Хочацца спадзявацца, што ў 1990 годзе наша краіна атрымала незалежнасць на вякі, што беларус надоўга ўтрымае ва ўласных руках сваю самую найвялікшую каштоўнасць. А падставы так меркаваць дае разуменне таго, што за гэты час вырасла і сфарміравалася новае пакаленне нашых суграмадзян, якое ўжо думае іначай, якое не ўяўляе жыцця ў іншых умовах, не ўяўляе сябе ў нейкай іншай краіне, акрамя Рэспублікі Беларусь. Больш таго, за дзевяць гадоў больш як 800 тысяч маленькіх грамадзян нарадзіліся ўжо ў Рэспубліцы Беларусь.

3 ліпеня — дата не меншай гістарычнай важнасці для беларускага народа. У вызваленні краіны, яе сталіцы ад нямецка-фашысцкай навалы хаваецца моцны фактар незалежнасці і свабоднага развіцця чалавека. Цяпер у Беларусі галоўнае дзяржаўнае свята — Дзень Рэспублікі — прызначана менавіта на пачатак ліпеня.



Але сёння я не буду гаварыць пра тое, што падобнае рашэнне парадзіла палітычныя спрэчкі ў беларускім грамадстве — пра гэта ўсе добра ведаюць. Сёння, мне здаецца, трэба гаварыць пра іншае. Маючы такі невялікі вопыт самастойнага жыцця, наша дзяржава павінна шукаць захады для аб'яднання і ўмацавання нацыі. І якраз святы павінны гуртаваць нашых людзей, таму ім як мага менш трэба надаваць палітычнай афарбоўкі.

Кожнаму свядомаму чалавеку зразумела, што і 25 сакавіка, і 1 студзеня, і 27 ліпеня, і 3 ліпеня — гэта неаспрэчныя факты нашай агульнай гісторыі. І пры гэтым неабходна ўлічваць той фактар, што ўсе людзі Беларусі, якім давялося жыць у розныя часы, маюць схільнасць святкаваць менавіта тую дату, якую ім падказвае сумленне, якая ім бліжэй паводле ўласных перакананняў, паводле ўласнага лёсу. Змяніць такі стан рэчаў немагчыма. Таксама відавочна і тое, што ўсе гэтыя даты паслядоўна звязаны. Мы дакладна можам сказаць: калі б не было 25 сакавіка, то, несумненна, не было б і 1 студзеня, калі б не было 27 ліпеня, то, напэўна, не было б і 3 ліпеня. Ці, дакладней, наадварот...

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## Частушкі

Беларуская валюта  
Бульбай называецца.  
Як з'ясі яе з паўпуда -  
Весялей спяваецца.

## ЗВАРОТ

### удзельнікаў мітынгу ТБМ імя Францішка Скарыны да гарадскіх уладаў Мінска

Мы, сябры і прыхільнікі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, звяртаемся да кіраўніцтва Мінгарвыканкама і прапаноўваем прыняць шэраг дакументаў па забеспячэнні рэальнага статуса беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця сталіцы, з улікам наступных меркаванняў:

1. У сталіцы павінен быць адчынены Нацыянальны беларускамоўны універсітэт.
2. У кожным мікрараёне не менш як адна школа павінна быць беларускамоўнай.
3. Ліквідаваць практыку невалодання дырэктарамі школ г.Мінска беларускай мовай, аднавіўшы курсавую падрыхтоўку кіраўнічых кадраў.
4. Для пазбягання дыскрымінацыі беларусаў па моўнай прыкмеце абавязаць супрацоўнікаў аддзелаў пісем у органах мясцовай улады на беларускамоўныя лісты даваць адказы па-беларуску.
5. Уся візуальная інфармацыя: шыльды, рэкламныя плакаты, афішы, назвы аб'ектаў - павінна падавацца найперш па-беларуску.
6. Абавязаць усіх дырэктароў дзяржаўных прадпрыемстваў абсталяваць будынкі шыльдамі на беларускай мове.
7. У выпадку перайменавання або надання новым вуліцам назваў выкарыстоўваць беларускую тэматыку і гістарычную тапаніміку. Адшукаць магчымасць надання вуліцам у цэнтры Мінска імён Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Адама Міцкевіча, Францішка Багушэвіча. Увесці ў адпаведную камісію гарвыканкама прадстаўніка ТБМ.
8. У гарадскім транспарце пры абвяшчэнні прыпынкаў выкарыстоўваць беларускую мову, ужываць аўтаабвяшчальнікі, калі вадзіцель не валодае мовай. Прадугледзець 10% надбаўку да заробку вадзіцелям за выкарыстанне беларускай мовы ў працы.
9. Увесці пасаду інспектара па культуры мовы ў пэўных аддзелах райвыканкамаў.

8 верасня 1999 года

# Мы — дзеці адной маці

Памятаецца, на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі А.Лукашэнка гаварыў аб важнасці стабільнасці ў краіне. Вось яго словы: "...у нас у грамадстве ўстанавілася кволая раўнавага, сацыяльны мір, і я хачу і імкнуся ўмацаваць яго". І далей: "Мы нацыю ледзь не раскалолі па моўным прынцыпе...". "БНФ па моўным прынцыпе падзяліў людзей на "свядомых" і "несвядомых". Па гэтай прычыне пачалося сапраўднае процістаянне, раскалолася нацыя. І я абавязаны быў спытаць у народа, на якой ці на якіх мовах яму гаварыць. Так што гэты раскол парадзіў не прэзідэнт, а "ваяўнічы фронт".

Добра разважыўшы, прыходжу зусім да іншых высноў. Сапраўды, нацыя па моўным пытанні раскалолася, але ў гэтым ніякай віны БНФ няма, хаця ён і быў галоўным рухавіком нацыянальнага адраджэння напачатку 90-х гадоў. Гісторыя ў той час давала нам яшчэ адзін шанц, як і ў 20-я гады, — ажыццявіць беларусізацыю, вярнуцца да сваіх каранёў і выратаваць нацыю ад канчатковай русіфікацыі. Гэта было магчымым праз рэальнае зацвярджэнне беларускай мовы ў Канстытуцыі і Законе аб мовах як адзінай дзяржаўнай, паўсюднае яе пашырэнне — у школах і вну, у службовай сферы.

Але ў 20-х гадах гэты працэс быў перарваны бальшавіцкай уладай, носьбіты нацыянальнага адраджэння — рэпрэсіраваны. Цяперашняе беларускае Адраджэнне спыніла сённяшняя ўлада, спыніла рукамі пражываючых тут расійцаў і зрусіфікаваных беларусаў праз ініцыяваныя прэзідэнтам рэферэндумы. У выніку наша нацыя страціла перспектыву адрадзіцца, бо працэс русіфікацыі зараз ідзе поўным ходам — шляхам інтэнсіўнага пераводу на рускамоўнае навучанне школьнай і студэнцкай моладзі, праз дзяржаўны друк, адкрытае выцясненне беларускай мовы з усіх сфер у грамадстве.

Яшчэ большы штуршок падзелу грамадства дала апантаная палітыка безагляднай інтэграцыі Беларусі і Расіі, імкненне нашага прэзідэнта ўтварыць адзіную славянскую дзяржаву. Для адных гэта — "светлое великое дело единения наших народов" (А.Лукашэнка). Для другіх — гістарычная несправядлівасць, трагедыя, якая не сёння пачалася. Супраць яе нашы продкі не адзін раз уздымаліся на барацьбу. У розных формах адбываецца яна і цяпер.

Раскалоліся людзі і ў адносінах да дзяржаўнай сімволікі, новай Канстытуцыі, да медатаў вырашэння ўладай эканамічных праблем, у выніку якіх жыццёвы ўзровень насельніцтва няўхільна падае. Выклікае абурэнне ў людзей жорсткасць улады да "злачынцаў" — В.Старавойтава, якога, хворага, на судзе трымаюць у жалезнай клетцы, да В.Лявонава, А.Клімава, У.Кудзінава, Т.Віннікавай, У.Плешчанкі, якіх спачатку арыштоўваюць, а потым шукаюць віну. Ды на працягу многіх месяцаў не могуць знайсці...

Няма адзінства ў грамадстве ў адносінах да нацыянальнай ідэі, дзяржаўнасці, незалежнасці, бо многія прывыклі жыць у "вялікай сям'і рэспублік свабодных" і, не ведаючы сваёй гісторыі, адмовіліся ад мовы продкаў. Другія вызначаюцца глыбокімі патрыятычнымі пачуццямі, высока цэняць нацыянальныя каштоўнасці: герб, сцяг, родную мову, багатую гісторыю Беларусі, яе дзяржаўнасць, суверэнітэт. Яны актыўна адстойваюць нацыянальна-дэмакратычныя каштоўнасці і інтарэсы Бацькаўшчыны. Гэта свядомыя, сапраўдныя, годныя грамадзяне — незалежна ад іх нацыянальнасці.

Усе мы жывём разам на гэтай зямлі, і ўсім трэба ёю даражыць і берагчы яе. А не дзяліць на "чэсных" і "нячэсных", сваіх і чужых. Мы — сыны адной маці, і любіць яе трэба пасыноўску, а не "здаваць у арэнду" чужому дзядзьку. Тады і лад будзе ў нашай беларускай хаце.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**
г.Ашмяны.

Сакрат ЯНОВІЧ (Беласточчына)

# ПОГЛЯД НА БЕЛАРУСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ

Нацыянальная ідэя наогул, як вышэйшая ступень разьвіцьця грамадзкай сьвядомасьці, натуральным чынам абумоўлена цывілізацыйным прагрэсам і таму ня мае грунту ў запозьненых этнічных структурах. Яе першааснова — узьнікненьне пачуцьця бацькаўшчыны на звышродавым, пазакланавым узроўні, што немагчымае ва ўмовах пляменнай аўтаркіі. Нацыю, як указвае сама этымалогія тэрміна, фармуе супольнасьць усенароднага лёсу пры ягонай адрознасьці ад геаграфічна іншых. Неабавязковае тут этнічнае падабенства /клясычны прыклад: Швайцарыя/. Усяму інстанцыя вытворчасьць, эканоміка, а перш за ўсё яе дынамізм, у выніку якога паўстае асобны рынак тавараў, нараджаецца неабходны тады канфлікт інтарэсаў, без чаго адно маразм, застой, самадэгэнерацыя. Знакаміта ілюструе тое Амэрыканская Рэвалюцыя, бунт тых-жа англамоўных каляністаў супроць тормазаў з боку мэтраполіі закончаны зьяўленьнем амэрыканскай нацыі, а ў нашы дні пасьлядоўна англа-амэрыканскай мовы.

У дзевятнаццатае стагодзьдзе, званае Стагодзьдзем Нацыяў, вызвольныя рухі невыпадкова праявіліся ў гаспадарча істотных этнічных частках імпэрыяў. Пры чым сьвядомасьць некалі ўласнай гісторыі паслужыла ня болей як эмацыянальна-інтэлектуальнае абгрунтаваньне, банальны аргумэнт. Вырашальны ўплыў — у сэнсе папулярнасьці нацыянальнай ідэі — мела тая пераконанасьць, што, адкалоўшыся ў незалежнасьць, будзе дабратнейшым жыцьцё. Асабліва выразна відаць тое ў нясьціханых польскіх паўстаньнях. Свабоду пісалі на штандарах; у сапраўднасьці змагаліся за адлучэньне Расеі як манструальнага паразіта, анахранічна заняпалага ў параўнаньні з прывісьлінскім капіталізмам /рабочы рух у Царстве Польскім на дзесяціголзьдзі ранейшы, чымсьці ў Пецярбурзе з Масквою/. Яшчэ адна пры гэтым характэрнасьць: народніцтва як ідэя сялянскай рэвалюцыі, вёскі як рухавіка прагрэсу, ніколі не выйшла за Буг і Карпаты, а ў Варшаве лічылася расейскім дзівацтвам ды нерацыянальнай утопіяй. Будзе Польшча — будзе хлеб з маслам і шынкаю наверсе. А дзе Расея, там галота і цемра.

Ідэнтычны па сутнасьці, нацыястваральны мэханізм дзейнічаў на Балканах у рамках Асманскай Імпэрыі. Гэта — Балгарыя як заможны рэгіён Турцыі, ці тая-ж Сэрбія. Аўстра-Вэнгрыя фінансава трымалася на індустрыі Чэхіі, як і пасьляваенная Польшча — на Сілезіі /Сьлёнск да 1980 г. складаў 60% бюджэту дзяржавы/. Сёньня шпарка пашыраецца шлёнская нацыянальнасьць і аўтанамізм, дзеля чаго аж надта гістарычных падставаў. Усё ў імя таго-ж: даволі нам карміць Польшчу, хай сама на сябе зарабляе!

Нацыянальны рух у бедных этнічных ускраінах не знаходзіць усеагульнай падтрымкі, існуе пераважна як катэгорыя культуры. Прыкладаў дзеля таго мноства — Брэтанія, Фрызыя, Карынтыя, Корсіка, Галісія, Сканія, etc.

Трэба разам з тым памятаць, што ідэя самое нацыі ёсьць прадукт дэмакратызацыі, далучэньня грамадзкіх нізоў да гісторыі. Яе пачаткі ў Францускай Рэвалюцыі. Да тае пары паляк ці рускі разумеўся зусім ня так, як сёньня. Палякамі ці рускімі былі дваране, нават не мяшчане. Сінонім саслоўя, не этнасу.

Лягічна, што зародак беларускай нацыянальнай ідэі вяжацца з той часткай былога Вялікага княства Літоўскага, якая пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай апынулася ў Прускім Каралеўстве. Калі ўся Беларусь, знаходзячыся пад царскім ботам, ані кранулася ў сваё руханьне дапераду, дык гэтая Беластоцкая Акруга знайшлася такім чынам пад узьдзеяньнем тадышніх эўрапейскіх стандартаў у некаторай ступені будучы ўжо падрыхтаванай дзеля іх рэфарматарскай перабудовай эканомікі ды гарадзкога жыцьця, якую папярэдне інтэнсыўна праводзіў у Чорнай Русі славуты падскарбі Антон Тызэнгаўз. Нешта аналягічнае адбывалася з украінскім нацыянальным рухам у аўстрыйскай Галіччыне. Хвалі разьвіцьця каціліся і коцяцца ад Захаду, з арэалу антычнага Рыму. Не наадварот, не ад Вялікага Стэпу.

Кажучы пра нарадзіны ідэі беларускасьці ў новачасным разуменьні дакранаемся да паралельнага з грамадзка-матэрыяльным фактара, менавіта зацікаўленасьці ім з боку палітычнай Эўропы, дапамогі звонку. Без чаго ўсякія нацыянальныя аспірацыі апускаюцца ў сірочасьць, у пакутную вэгетацыю. У нашай нацыянальнай гісторыі гэты — прускі — эпізод аказаўся адзіным пазытыўным на ўсё бягучае і будучае стагодзьдзі; вось адзін з эўрапейскіх цэнтраў — Бэрлін — убачыў свае інтарэсы ў спрыяньні беларусам. Прычына таго відавочная — як у выпадку аўстрыйскага ўкраінафільства, Прускае Каралеўства межавала з Расеяй і таму гэты свой беларускі фрагмент не магло не трактаваць у міждзяржаўным кантэксьце, г. зн. інструмэнтальна. Даючы падмогу ўніяцкай епархіі ў Супрасьлі, што ля Беластока, разбудоўваючы яе структуры і мацуючы ў ёй проціправаслаўныя і проціпольскія плыні. Стаўкай была ня столькі гаспадарчая, колькі стратэгічна-вайсковая карысьць: Беласточчына перарэзвала адвечны ваенны шлях захад-усход, адначасна перашкаджаючы Пецярбургу гуляць польскай картай /таму першае, чаго папрасіў Аляксандр І у Напалеона ў тыльзыцкую сустрэчу на Нёмане — гэта даць яму Беластоцкую Акругу/. Пасьля беларуская нацыянальная ідэя змарнела да выключна ўнутранай справы Расейскай Імпэрыі. Аб'явілася затое летувіская — з прускай Малой Летувы вакол Тыльзіта і Голдапа адбывалася абуджэньне жэмайтаў, шляхам кантрабанды друкаў /тайныя інтарэсы Нямеччыны ў гэтым лішне тлумачыць, як і інтарэсы Расеі ў спрыяньні латышам ды эстонцам у імя паслабленьня нямецкасьці Лівоніі/.

Зьяўленьне "Нашай нівы" слушна вяжуць з лібэралізацыяй царызму, хоць гэта частковая праўда /існавала ўжо цэлая інфраструктура літоўскага друку, польскага/. Нешта беларускамоўнае мелася быць яшчэ пры Мураўёве, але тады Пецярбургу анічога гэта не дало-б: бачылася рэальным зьнішчэньне польшчыны адміністрацыйнымі мэтадамі. Не было патрэбы ставіць перад ёю "беларускі плот" /вызначэньне Ю. Туронка/. Спатрэбілася тое толькі пасьля зямлятруснага 1905-га. Слабенькі аказаўся той "плот" — бракавала кадраў, якія ў палякаў ды летувісаў даўно вырасьлі, укамплектаваліся. Беларускім адраджэнцам давялося выканаць у кароткія тэрміны работу за ўсё дзевятнаццатае стагодзьдзе — адначасна стварыць эліту нацыі і саму нацыю, чым спакойна тым часам не дурылі сабе галавы суседзі. Яны канцэнтраваліся на экспансіі, ня мусілі капаць фундамэнтаў пад нацыянальны дом, стаяў ён у іх даўно гатовы, з бліскоткімі вокнамі /нават летувіская граматыка аперадзіла беларускую амаль на паўвеку/.

Расея як Расея: вечна спазьняецца або шалее. У беларускую карту згулялі бальшавікі. Ці існавала альтэрнатыва? Не, як паказалі наступныя дэкады. Беларуская справа не пасьпела выйсьці за рамкі ўнутрырасейскага пытаньня.

Беларускі нацыянальны, а затым і палітычны рух вырунуўся з народніцтва. Яго асноваплакадчыкамі, сейбітамі зьявіліся аўтары "Гоману", студэнцка-інтэлігенцкая т. зв. Беларуская партыя Народная Воля. Гэта радыкальна паўплывала на ягоную іншасьць ад ірэдэнты суседзяў. У ім ніколі не стаяла пытаньне дзяржаўнай незалежнасьці, практычна аж да прадвесьня 1918 г. Вярхоўнай палітычнай мэтай лічылася дасягненьне аўтаноміі ў рамках Расейскай дзяржавы. Пры чым, болей выглядала тое на агульны ідэал, чымсьці на дэталёвую праграму і праект самога ўтварэньня. Нават славуты Ўсебеларускі Кангрэс не пайшоў далей па-за аўтанамізм. Трэба было Акту 25 Сакавіка, вось спачатку абсалютна дэкларатыўнага. Толькі зацікаўленьне сьвежаадноўленай Польшчы беларускім пытаньнем выклікала ў беларусаў незалежніцкія памкненьні /Слуцкае паўстаньне, акцыя гэн. Балаховіча/. Берасьцейскі мір, потым Рыскі трактат фіналізаваліся аднак-жа без удзелу беларускіх дэлегатаў; удзельнічала затое Ўкраіна як зона нямецкіх інтарэсаў. Дадаткова характарызуюць тут міжнародную пакінутасьць Беларусі прапановы Леніна палякам у 1919 г., у якіх апавяшчаў ён гатоўнасьць прызнаць межы Польшчы ад 1772 г. У Рызе /1921 г./ польскія перамоўшчыкі не захацелі і Менску, кіруючыся прынцыпам — узяць столькі тэрыторыі, колькі ўдасца паланізаваць яе на базе значных польскіх мяншыняў рыма-каталіцкай канфэсіі, і каб непалякі ў Польскай дзяржаве не пераважылі колькасна /на што тайна разьлічвала савецкая дыпламатыя/.

Культ селяніна і вёскі, адсутнасьць гарадзкога пэйзажу ў беларускім нацыянальным уяўленьні датычыў не адно літаратуры, але і палітыкі. Як просты вынік таго-ж народніцтва ды культывацыі т. зв. народнай мудрасьці, што паўсюдна рыхтавала малахлебны сацыялізм, замест порсткі прадуктывізм ды ўзвышэньне індывідуальнай удачы. Беларусь не пазбылася мэнталітэту калектывізму, тыповага большасьці народаў сьвету, і таму засталася далёка ззаду за эўрапейскім дабрабытам, які разгарнуўся ў атмасфэры "рэлігіі працы". У гэтым месцы можна тэарэтычна дазволіць сабе шкадаваньне, што не ўдалася Радзівілам пратэстанцкая ўнія са Швэцыяй, яшчэ ў ХУІІ ст. Этас пратэстантызму паслужыў падставай пасьлейшаму капіталізму, і пачатковы яго абсяг даволі дакладна адпавядаў распаўсюджаньню багацьця ў Эўропе. Багацьце нараджаецца ў разумнай натузе, багатыя не вераць у цуды ды любяць паўтараць, што Госпад ня ёсьць парабак, які ўсенька паробіць за нас... Як у фантастычна цэльным расейскім афарызьме "Спасение утопающих это дело рук самих утопающих!" За адно гэта іхным Ільфу і Пятрову варта паставіць помнік.

У гадох 1918-1920, калі перакройвалася карта кантыненту і з-пад імпэрскіх ільдоў вынырвалі на паверхню нацыянальныя дзяржавы на ўсход ад Бэрліна і Вены, беларусы заставаліся разявамі. Ня столькі па сваёй віне, колькі ў моц сваёй запозьненасьці або і архаічнасьці ў палітыкаваньні. Яны не заіснавалі на міжнароднай арэне, у іх не знайшоўся хоць-бы адзін лідэр, які здолеў-бы свабодна размаўляць, пісаць па-францускy, на тадышняй мове міждзяржаўных зносінаў /іхныя мэмарандумы, пачынаючы ад лазанскага з 1916 г., робяць ураженьне франкападобных мужыцкіх прашэньняў, сачыненых гімназістам вясковага паходжаньня/. Тым часам летувісы мелі ў версальскі пэрыяд шанаванага ў Парыжы Оскара Мілаша, а палякі ня менш папулярнага ў палітычных салонах Рамана Дмоўскага; нікім такім не былі ў стане пакарыстацца беларусцы /Луцкевіч, Ластоўскі — гэта не партнёры ў элегантнай канвэрсацыі/. Зялёныя ў палітыцы. Без традыцыяў вызваленчага змаганьня, пашыранай канспірацыі і шырэйшых сувязяў. Закамплексаваныя тубыльцкія інтэлігенты, часта самавукі з хаатычнымі ведамі. Такая брутальная праўда пра інтэлектуальную падрыхтоўку першых адраджэнцаў. Але не ў тым галоўная прычына беларускіх няўдачаў, не ў нешматлікасьці кадравых індывідаў.

Ужо ў заняпад Рэчы Паспалітай абодвух народаў, Вялікае княства Літоўскае ссохлася ў польскую правінцыю і фармальна было папраўдзе ліквідаванае Трэцямайскай Канстытуцыяй /1793 г./. Пратэстаў гісторыя не запісала. Міцкевічаўская Літва — гэта рэгіён, малая айчына ў вялікай, польскай. Не іначай глядзеў на сябе і сантымэнтальны Дунін-Марцінкевіч. Літоўскія баяры — дэфінітыўна кажучы — ужо ў часы Льва Сапегі ахвоча самапаланізаваліся, наклікаючы патрэбу асобнага артыкулу ў Літоўскім Статуце /"пісар... маець рускімі літарамі і словы пісаць".../ У пачатку семнаццатага стагодзьдзя зрэдку ўсяго бачыцца на дакумантах нелацінскія подпісы, каб тымі-ж "рускімі літэрамі" Літоўскі баярскі народ пераўтвараўся ў польскі шляхецкі. Вялікае княства Літоўскае — у другую польскую дзяржаўнасьць, усё роўна што Рэспубліка Беларусь, якая прэзэнтуецца як даволі лішняя, яшчэ адна дзяржава рускіх... Баяраў злучыла са шляхтаю адзінства лёсу. Маскоўская пагроза, пэрспэктыва азіяцкага дэспатызму настойліва штурхала ў паланізм. Дзеля чытэльнай аналёгіі: ідэнтычна паводзілі сябе тыя беларусы, што ўцякалі ад незайздроснага савецкага лёсу. Гісторыя як быццам паўтараецца, усё кругамі. Сьпіральна?

Ідэя Беларусі была, аднак, непазьбежнай, пакуль існаваў паншчынны двор і запрыгоненая вёска. Прадчуваў яе Кастусь Каліноўскі, але, будучы сялянскім рэвалюцыянерам, — зусім непрымальным палякамі — ён рухаўся ў бакунінскім рэчышчы. Дамінацыя сацыяльнага над нацыянальным, калі бацькаўшчына на другарадным месцы і не больш як пасьлядоўнасьць рэвалюцыі, прадвызначыла мізэр тутэйшага нацыяналізму, ідэялёгіі айчыны ды ўласнага хлеба. Гісторыкі, досыць недаўмекавата ашаломлены тым мноствам рэвалюцыянераў кантынентальнага маштабу, якія асабліва густа пладзіліся ў тагачаснай Беларусі. Не бавячыся ў

пералікі, запытайма з прытворнай наіўнасьцю: хто ўтварыў у Менску Расейскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю, якая потым выгадавала бальшавікоў? Ну, а каб хоць адзін рускі!

Клясавая ампутацыя беларускага этнасу да сялянства неабавязкова прадракала безнадзейнасьць адраджэньня. Ня менш сялянскай была Фінляндыя з Прыбалтыкай, Украіна са сваім гайдамацкім фальклёрам, мадзьярызаваная Славакія або тыя-ж балгары з македонцамі, ба, нарвэгі, ісьляндцы. Беларусі не хапіла сур'ёзнага міжнароднага чыньніка, патрэбнасьці ў заіснаваньні яе як аднаго з істотных фактараў Эўропы. Аказалася яна нікому не патрэбнай, без яе нават прасьцей жылося іншым. На гэтым-жа праваліўся і ўкраінскі рух, хоць Пілсудскі разумеў у 1920 годзе, што без незалежнай Украіны аднаўленая польская незалежнасьць асуджана на пагібель; аднак не дабіўся ён грамадзкага паразуменьня на гэты конт, пераломy блізарукасьці Варшавы. Нацыянальнага эгаізму.

Беларуская нацыянальная ідэя не магла ня быць антыпольскай, стаючыся натуральным прадуктам супярэчнасьці паміж саламяна-стрэшнай беднатою і панскім дваром. Прарасейскія акцэнты ў ёй трывала заселі тады ў моц хуткага росту дабрабыту ў сталыпінскія рэформы, што яскрава кантраставала з бядотным потым становішчам адроджанай Польшчы, псыхалягічна спалучалася з памятнай царскай прапагандай пра супрацы шляхты супроць ліквідацыі паншчыны.

Паланафільства ў кіраўніцкіх эшалонах нацыі мусіла зьнікнуць, нават без асымілятарскай накіраванасьці з боку варшаўскага ўраду. Сама прырода палітыкі такая, што найменш важны ў ёй інтэлектуалізм; усё вырашае электарат, натоўп. Якім гэта паланафілем мог стацца зацюканы мужык на лапіку ворнай зямлі, калі літаральна побач яго прасьціраліся тысячы гэктараў панска-польскіх угодзьдзяў?! І магнэсам прыцягвала да сябе прымежная Савецкая Расея, яе ідэялёгія клясавай нянавісьці, прынцып "усе жываты такія самыя". Гэта таму, таксама, буржуазныя плыні ў беларускім руху афішавалі сацыяльную праграму блізкую да левых. Розьніца наглядалася між імі ў нязгодзе на кліч "у пролетариата нет родины". Чым закончылася тое пралетарыяту, сёньня мы ўвачавідкі пераканаліся. Без нацыянальнай ідэі няма жыцьця, застаецца ганебная вэгетацыя без якога-колечы прасоўваньня да лепшага. Больш таго, без пачуцьця бацькаўшчыны немагчымае разьвіцьцё эканомікі, бо мала такіх фраераў, якія гатовы напружвацца ў імя цэлага сьвету: чалавеку важней ад пахвалы карысьць, добры абед і кватэра замест нібы сусьветнага шчасьця ўсім, таксама гультаям. На сацыялістычнай эканоміцы не адна Расея пагарэла. У ёй няма элімінацыі менавіта гультая і дурня, няма дзеяньня закону: многа працую — многа маю. Каму ахвота рабіць за неўдалоту?

Звыш стагадовая гісторыя беларускай нацыянальнай ідэі паказвае, як цяжка перамагчы ў самім сабе сваё паходжаньне, нягледзячы на ўсьведамленьне ўжо анахранічнасьці таго. Гэта гены, якія зьмяняюцца не інача як шляхам скрыжоўваньня. Шанц — увага! — прапажы сялянства як постфеадальнай структуры, і постіндустрыяльнага пралетарыяту, які, як банальна вядома, фармаваўся з таго-ж сялянства ў пэрыяд капіталізацыі гаспадаркі /лішнія людзі падаваліся ў горад, ён хутка брыняў імі, шматлюдзеў/. Клясавы падзел зараз размываецца, у непраўдападобных раней тэхналягічных рэвалюцыі. Эўропа цяпер ідзе ў напрамку дэмаграфічнай прапорцыі 20:80, г. зн. чакае яе праблема наогул лішніх рук ды мазгоў у колькасьці васьмідзесяці працэнтаў ад усяе папуляцыі. Але, згадваю пра тое дзеля кантэксту, ня больш: куды мы як чалавецтва імкнемся, няма пэўнага адказу. Прадбачваць будучыню трэба, але яна заўсёды загадкаю.

Беларуская нацыянальная ідэя на сёньняшні дзень гняздуе не ў вёсцы і мястэчку, гібеючых, а ў горадзе, у вялікім горадзе. Што, натуральным чынам, зьмяняе яе мэнталітэт, але і прыярытэты. Само разуменьне бацькаўшчыны. Першарадным у ёй становіцца эканамічны нацыяналізм, які быццам дэградуе культурны да ролі ўзмацняльнага аргумэнту. Пакуль што гэтая зьява ў Беларусі ня так відочная з увагі на ўсеагульны ў ёй застой. Непазьбежная, аднак, як некалі сялянскі выбух самое ідэі Беларусі.

Эканамічны нацыяналізм ёсьць рэакцыяй на каляніялізм, новага тыпу, які, са свайго боку, ёсьць рэляцыяй між буйным цэнтрам і абадранскай пэрыфэрыяй. Трэба тут адразу зазначыць, што эканамічны нацыяналізм немагчымы без культурнага. Пачуцьцё крыўды ў этнічна аднародным з цэнтрам правінцыйным асяродзьдзі ў горшым варыянце выяўляецца ў масавай міграцыі ў мэтраполію, не ствараючы тэндэнцыі да самастойнасьці. У гэтым значэньні этнічна розныя пэрыфэрыі, нацыянальныя, зьяўляюцца вельмі энергетычным стымулам супроць эканамічнага апустошваньня тэрыторыяў /кшталтам ЗША, пустых у сярэдзіне, з цягам узьбярэжных агламэрацыяў ды ў рэгіёне Вялікіх Азёраў. Ці ў Нямеччыне, супрацiўна, дзе няма горада з "комплексам Парыжа", тамашняя раўнамернасьць бярэцца з гісторыі, з існаваньня некалі процьмы сувэрэнных княстваў/.

Драма культурна-моўнай асыміляцыі палягае ў выбіваньні псыха-інтэлектуальнай апоры эканамічнаму нацыяналізму. Асыміляцыя — гэта далучэньне да суседняй культуры, этнасу, іначай кажучы: правінцыялізацыя. Паглыбленьне комплексу няпоўнацэннасьці, трансфармацыя галоты ў шчаслівую масу, якая жыве спадзяваньнем, што ўсенька дасьць ёй "могучая и великая". Узьнікшая віртуальная рэчаіснасьць, насычаная штучнымі пазытывамі, нярэдка трывае працяглыя эпохі. Канчатковая дэнацыяналізацыя закончваецца беспрасьветным маразмам па-гогалеўску ўдзічэлай правінцыі з аднязначна негатыўнай у ёй сэлекцыяй чалавечага матэрыялу. У сумарным выніку застаецца тэрыторыяй на датацыйным утрыманьні. Русыфікаваная да галавешак беларушчыны, Рэспубліка Беларусь — іпатэтычна — страціць шанцы на эканамічны нацыяналізм, усе зробіцца рускімі. Ключ да яе гаспадарчай будучыні апынецца ў Маскве, дзе на Беларусь будуць глядзець як на адну з мнагалікіх губерняў і паўторыцца царскі варыянт ейнага лёсу — чыста стратэгічная патрэбнасьць у ёй для Расеі ў якасьці камунікацыйнага ды ваеннага калідору ў Эўропу. Разам з замарожанасьцю культурнага ўзроўню беларускай губерні як дэнацыяналізаванай у пэрыфэрыйную расейскасьць.

Прырода самое культуры такая, што не разгортваецца яна ў ізаляванасьці ад сусьветнае. Якое-ж можа быць разьвіцьцё ў тых "почти-русских"? Яны назаўсёды трапяць у ніжэйшы гатунак рускіх і спатрэбіцца цуд геніяльнасьці Шолахава, каб гэтую "истинно-русскую" Беларусь заўважылі хоць-бы ў Маскве, а потым і далей. Шолахаў, як і Пушкін, здараюцца адзін раз у гісторыі нацыі, яны не паддаюцца плямённай рэпрадукцыі...

Спляжаньне беларускай Беларусі сапхне яе ў заглухласьць, у палігон генэральнага штабу. Расейскі капіталізм ніколі моцна не інвэставаў у Беларусь, у калёнію. Рахунак яму ад гэтага ня быў-бы той; капітал ня любіць выдаткаў на прывоз сыравіны ці мантажных элемэнтаў. У Савецкім Саюзе аднак ігнаравалі кошт у імя зьліцьця нацыяў у вялізную імпэрскую. Калісьці нехта падлічыць, якою цаною давалася ўтопія стварэньня савецкай нацыі. Памятны Мікіта Хрушчоў аналагізаваў з амэрыканскай, у якую цяпер уцёк яго родны сын /тупалобы бацька ня кеміў, што амэрыканцаў ніхто не ствараў, яны самі паявіліся, зусім не па-божай фанабэрыі, тым болей па волі нейкага палітбюро/.

На павярхоўны погляд беларуская нацыянальная ідэя падаецца культурніцкім стогнам інтэлігенцкіх недабойкаў, пасьмяелых атсутнасьцю альтэрнатывы на расстрэл або галодную сьмерць на Калыме. Насамрэч гэтая ідэя ўяўляе сабою змаганьне супроць дэбілізацыі Беларусі ў пэрманентную правінцыйнасьць. Гэта запыненьне крывацёку, з якім, праўда, можна жыць, але не квітнець здароўем. Толькі з выгляду здаецца, што справа тут найперш у выратаваньні нацыянальнай культуры, мовы. Тым часам усё ўзаемна зьвязана — не бываюць культурныя народы матэрыяльна бедныя, як і заможныя, але некультурныя. Капіталісты ня ўчора агледзеліся, што культурны працаўнік варты пяцьцю дурным, як прафэсыйны салдат дае рады дзесяцьцю рэкрутам. Пры чым, той і той значна менш каштуюць, даючы з сябе непараўнальна больш. Гэта кардынальная памылка казаць, што перш наробім кілбасаў, а потым ужо зоймемся культурнасьцю. Не наробім і ня зоймемся, бо адно без другога немагчымае. Усё тое павінна адбывацца адначасна. Быццам два бакі тае-ж манэты; аднаго аверсу мала.

Ва ўмовах адсутнасьці міжрэспубліканскай каманднай сыстэмы, распадзелу абавязкаў зьверху, якое-ж можа быць разьвіцьцё Рэспублікі Беларусь, пазбаўленай проста чалавечага сэнсу свайго існаваньня? Запоўненай не нацыяй, а насельніцтвам усяго, пасірочаму заплаканым па былой імпэрыі і яе гарантаваным мінімалізьме. Яно, насельніцтва, утомна чакае цуду вяртаньня СССР. Прынамсі ў абдымкі тае-ж Расеі, якая цяпер падрахоўвае аднак, хоць і цалуецца. Чаму не, успаможа яна Рэспубліку крэдытамі, аднак ня болей, чым неабходна гэта дзеля рэалізацыі яе штабных стратэгічных інтарэсаў. Прыняць Беларусь да сябе ня хоча, нягледзячы на яе "почти-российскость", бо абазначала-б тое ўзяць у свой бюджэт яшчэ дзесяць мільёнаў чалавек. Як іх возьмеш, калі са сваімі невядома, што рабіць-чыніць?! А і жывучы на заходніх пазыках. Скончыліся тыя гады, калі анэксіі давалі даход. Цяпер дзеля падваеньня вытворчасьці зусім ня трэба падваеньня лічбы працоўных рук, а вось наадварот. Па той-жа прычыне, для прыкладу, чэхі амаль сілком выпхнулі славакаў у незалежнасьць. Як і каляніяльныя дзяржавы некалі пазбыліся, бязьлітасна, сваіх заморскіх уладаньняў, нават сакрэтна фінансуючы дзеля прыстойнага прэтэксту т. зв. вызвольны рух у калёніях, якія сёньнячы гатовы на каленях паўзьці назад у Лёндан, Парыж.

Беларусь асуджана на незалежнасьць. Гучыць гэта, бы іронія гісторыі. Ёй неадкладна, проста сьпешным парадкам патрэбна свая нацыянальная ідэя, без якой не вылузаецца з гнільнага працэсу. Само насельніцтва ніколі не ўяўляла сабою рухаючы патэнцыял, толькі нацыя, яе "чувство родины".

Не заробак вырашае матывацыю, а духоўнасьць. Ці той-жа Шолахаў мусіў, абавязкова, напісаць "Ціхі Дон"? Нейкі райком прымусіў яго дзеля гэтага? А Ньютана хто прымушаў адкрыць закон зямное гравітацыі? Або, хоць-бы, таго Архімэда? Купала пісаў, бо што — абяцалі яму фальварак? Славуты амэрыканскі мільярдэр Рокфэлер сказаў, што без вялікай ідэі няма вялікіх грошай. Ён не жартаваў. Як не жартуе тая-ж Японія, якая не мае натуральных багацьцяў, уся яе індустрыя трымаецца на імпарце, што зусім не перашкаджае ёй зрабіцца другой — пасьля ЗША — эканамічнай магутнасьцю, чаго нельга спадзявацца ад Расеі, хоць і мае яна ў сваіх нетрах цэлую табліцу Мэндзелеева. Хлеба свайго яна ня мае на ўвесь год, а маючы ў сябе ажно палавіну ўсіх чарназёмаў на зямной кулі! Бяда Расеі, таксама, і ў тым, што не было ў яе нацыянальнай ідэі; не Расея мела армію, але армія мела Расею. Гэта таму яна не разьвівалася, а пашыралася. Жыла анэксіямі, замест уласнага высілку, як гэта бачнае на Захадзе. У супастаўленьні з ім.

Беларуская нацыянальная ідэя, як кожная нацыянальная, ня можа нагадваць сабою лірычную паэму, бо тады каму яна будзе патрэбна, акрамя жменькі эстэтаў. Узяты з латыні назоўнік "нацыя" досыць шматзначны. але нязьменна датычыць масы людзей, не сацыяльных вярхоў. Адсюль — нацыянальная ідэя прыблізна тоесная з народнай. Гэта ідэя для ўсіх, і старых і малых. Мэтафарызуючы яе: ідэя свайго хлеба, свайго духа, не служэньне камусьці. Гэта ідэя гаспадара, а не парабка. Таму падставай яе ёсьць уласнасьць, матэрыяльная самастойнасьць, без якое праца страчвае свой найпершы гістарычны сэнс, менавіта творчы, крэатыўны. Савецкія камуністы былі непісьменнымі ў марксізьме, што і ня дзіва: каму гэта з іх хапала розуму і цярплівасьці прабівацца праз дзесяткі тамоў навуковых тэкстаў? Задавальняліся прасьцяцкімі тлумачэньнямі інструктараў, якія ня выйшлі па-за народніцкія міфы раю. Галоўная іх памылка ў тым, што верылі ў магчымасьць пабудовы камуністычнага ладу. Камунізму-ж нельга пабудаваць, да яго трэба цывілізацыйна дарасьці, калі зьнікне сама праца як умова існаваньня чалавека. Аспэкт яе змушонасьці пераўтворыцца ў неабавязковую актыўнасьць, што дакладна адпавядае дэфініцыі культуры /ад недахопу культуры ніхто не памёр/. У гэтым значэньні мастакі, артысты, паэты натуральныя камуністы, іх творчыя памкненьні не абумоўлены... жыватом, страўнікам. У такіх хацелі саветы перарабіць усе дзьвесьце пяцьдзесят мільёнаў; у пэрспектыве "жить по потребности, работать по возможности". Хутчэй тое збудзецца ў высока-разьвітых краінах, хоць Маркс ім не Навабог. Слушнасьць гістарычнага матэрыялізму частковая, але мы, славяне, па сваёй язычцкай адчайнасьці ўчынілі з яго новую рэлігію, кшталтам усётлумачальнага

(Далей, на наступнай бачыне)

хрысьціянства. Беднаму ўсё вецер у вочы, бо слаба думае. Бог дурня ня любіць.

Ідэя без папулярнасьці не ўяўляе сабою рэальнага грамадзкага фактару, застаецца па-лабараторнаму ў эмбрыяльным стане як праект дзеля магчымага зацікаўленьня ім. На папулярнасьць беларускай нацыянальнай ідэі давядзецца нямала пачакаць. Яе ажыцьцяўленьне перапынена зьніштажэньнем сялянства, люмпэнізацыяй без роду і племя. Ананімнасьцю савецкай масы, прывязанай да той-жа савецкай латыфунднасьці. Штучна выкліканай гарадызацыяй. Таму імпэрыі нядоўгавечныя, распадаюцца за адну ноч, бы тыя паленыя халопамі панскія маёнткі. Трэба зьмены пакаленьняў, г. зн. зьмены паўсюднай памяці.

У прыбалтаў нацыянальная ідэя імгненна распаўсюдзілася пры позьнім Гарбачове, бо ў іх не вымерла — не пасьпела! — пакаленьне, якое памятала даваенны дабрабыт і свабоду. У беларусаў не аказалася такога пакаленьня, нават у тых заходніх, бо і яны жылі ў каляніяльнай нэндзы. Ня мелі па чым смуткаваць. Гэта таму беларуская нацыянальная ідэя пазбаўлена ўнутрыграмадзкай мацаты і цалкам залежыць ад прымежнага атачэньня. Беларусь нагадвае сабою яму-яміску, у якой будуць трываць людзі так доўга, пакуль не агледзецца, што наўкола іншыя жывуць ужо ня так. Гэта мэханізм рэвалюцыі — той сапраўднай, а не перавароту, — якая ніколі не выбухне тады, калі ўсе на самюткім дне. А заўсёды, калі ёсьць з чым параўнаць свой ганебны лёс. У рэвалюцыі нязьменна маральны пачатак, не эканамічны. Раптам людкове не пагаджаюцца на быдлячыну. Як у тым "Інтэрнацыянале", зусім не расейскім, а францускага аўтарства. Рускія, як і японцы, імітатары Захаду, з той — аднак — розьніцай, што неглыбокія. Ухапіліся камунізму ні трохі не цямячы, што ён прадукт цывілізацыі чужой расейскаму кантыненту. Яны гэты камунізм рэалізавалі болей паводле Бакуніна. З рабаўніцкім размахам Сьценькі Разіна. З дзяржаўнай філасофіяй Івана Жахлівага. З абшчыннымі калгасамі без паняцьця пра рахунак.

У такой сцэнэрыі беларуская нацыянальная ідэя — з няшчасным ценем Кастуся Каліноўскага — прыводзіць на ўспамін перыпэтыі майсеевых Дзесяці Запаветаў, з якімі ўсё-ж ня так безнадзейна. Не дапаможа ёй палітычны цынізм: чым горай, тым лепей. Нацыя-люд цярпліва прашвэндаецца па пустыні, напэўна нашмат менш, чым жыды ў сінайскіх пясках. Эпоха вось ня тая. Нямаш мясаеднай егіпецкай няволі. Дзіва дзіўнае: няма каму прадацца! Беларус нікому не патрэбным стаўся, акрамя самога сябе. Ён гэта паволі зразумее, асабліва маладыя, якім Савецкі Саюз ужо гісторыя, часта цалкам кніжная.

Я не зьбіраюся пісаць праект беларускай нацыянальнай ідэі, яе пункты ды параграфы. Напіша яе само жыцьцё, яно самы геніяльны аўтар. Абавязкава напіша. Не чуваць-жа пра нейкі народ, які дапусьціўся татальнага самагубства. Інстынкт жыцьця нават у ракавай палаце.

У сьвятле ўсяго папярэдне сказанага не павінна нікога ўводзіць у незразуменьне, чаму беларусы лёгка парабіліся стопрацэнтнымі саветамі. Дэкляраваная імі беларускасьць толькі ў дваццаці працэнтах носіць на сабе нацыянальную адметнасьць; у прыгнятаючай большасьці быцьцё беларусам выключна рэгіянальнае, як быцьцё сібіраком, масквічом, палешуком. Разважаючы пра беларускую нацыянальную ідэю ды пэрспэктывы ёй, неабходна памятаць, што русыфікацыя Беларусі "состоялась". І што праблема дэрусыфікацыі гэтак-жа штучная, як праблема вяртаньня — напрыклад — Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Саветаў ня будзе, як ня будзе, скажам, Рымскай імпэрыі. Прапаў у вірах гісторыі гэнэратар саветызацыі. У сувязі з чым узьнікае пытаньне: а што чакае тыя мільёны беларускіх саветаў. Адказ на тое дзяцінна просты: чакае іх нацыянальнасьць, тое-ж "чувство родины", без якога чалавек — гэта валакіта і раб. Бязбацькавіч. Ненатуральная ітота, якая невядома чаму жыве на сьвеце, займае на ім тыя квадратныя мэтры.

У Прыдняпроўі здаўна дамінавалі маскоўскія ўплывы і таму сёньня там паўсюдная руская самасьвядомасьць, што пасьлядоўна вылілася ў рускую нацыянальнасьць; у рускі энклаў Беларусі /кшталтам францускага ў Бельгіі/. Уся пераважная рэшта татальнае "трасянкі", не адно моўнай, чакае своеасаблівая шызафрэнія "тоже-белоруссов".

Беларуская нацыянальная ідэя паўплывае на зьмену варункаў, як і варункі, у якіх яна нараджаецца, зьменяць ейнае аблічча. Спатрэбіцца ў ёй сынтэз Захаду з Усходам, вытварэньне непераходнай якасьці культурна-цывілізацыйнага памежжа або дакладней: міжмежжа. Справа ў тым, што наша нацыянальная культура з усходнеславянскімі каранямі канчаткова вырасла з заходнім нахілам. Па сутнасьці ёсьць яна заходнеэўрапейскай, што асабліва выразна відаць у яе літаратурным адраджэньні. Вялікае княства Літоўскае не было ўсходнім царствам. Найбольш дынамічны ў беларушчыне якраз рыма-каталіцкі элемэнт. Нават цяперашнім часам, хоць самых каталікаў усяго пятая частка насельніцтва. Вылучаецца энэргіяй першасны арэал гістарычнай Літвы, а ў найпершую чаргу забытая Чорная Русь, балта-славянская ў сваіх генах. Не славяна-балцкая. Культура не функцыянуе ў адрыве ад натуры.

Беларуская нацыянальная ідэя застанецца двухмоўнай, руска-беларускай. Яе рускамоўнасьць натуральная, а беларускамоўнасьць пастулятыўная, але жывучая з увагі на моўную роднаснасьць, узаемазразумеласьць. Літаратурная творчасьць пры гэтым, у сваіх вышэйшых праявах немагчымая на рускай мове, што не зьяўляецца парадоксам, а вынікам асымілятарскага зьбядненьня слоўніка, выключна ўжытковай пэрыфэрыйнасьці беларускага рускамоўя. "Великий и могучий" буяе ў карэнных губернях, не ў клімаце прыстасаванскага Прыдняпроўя. У ім касмічна далёка да слоўніка Даля.

Гэта толькі на некампэтэнтны погляд здаецца некаторым, што Расея зможа адным махам ліквідаваць "белорусскую родину". Ня можа, і то па сто прычынах, але даволі галоўнай тут: нашто ёй, Расеі, гэта каніцель? У Крамлі не "ваньки-дурачки". А казаць пра "святое дело интеграции" можа той, хто выпадкам апынуўся ў палітыцы. Тым чырвонасьцяжным нагадайма Сталіна і яго словы, што "у плитики нет сентиментов". Рускія рускіх глушылі, глушаць і будуць глушыць, плакаць будуць і глушыць! Дзяржава, якая кіруецца сэрцам, замест розумам, перастае быць дзяржаваю, а фраернай іншым тэрыторыяй. Пры чым, ужо дакладна лішняй у век тэхналягічных рэвалюцыяў, калі прадукцыя пераходзіць ад чалавека да машынаў. Тэрыторыя перастала быць патэнцыялам, перастаюць ім быць і мільёны працоўных рук. Маленечкі Сінгапур гатоў заваліць таварамі ўсю Паўднёва-Усходнюю Азію. Што раней і не сьнілася.

Беларуская нацыянальная ідэя ня можа сьмярдзець тэрорам і забойствамі. Няхай кампраметуюцца гэтым расейскія шавіністы, фанатыкі галоднай "единой и неделимой", вечна абаднанай ды сіфілітычнай. Дзе Расея, там гора з бядою. Гэта праўда, што быў у яе мінулым кароткі пэрыяд нечага людзкага, фактычна два: у сталыпінскія рэформы і — паўгода — пасьля Лютаўскай рэвалюцыі. На ўсе стагодзьдзі ейнага крывавага існаваньня. Быў падобны шанц і пасьля забароны КПСС, але тады трэба-б нечага накшталт Нюрнбэрскага Працэсу, які вывеў Нямеччыну ў дэмакратызм і дабрабыт. Было-б за што судзіць тых бальшавіцкіх Эйхманаў, а яны вось нырнулі ў мафійны капіталізм на расейскі капыл.

У заканчэньне — калі-б так склалася гістарычна, што не было і няма беларускай нацыі, дык трэба было-б цяпер проста прыдумаць яе дзеля добрай будучыні людзям між Гародняю і Магілёвам, Пінскам і Віцебскам. Хоць-бы таму, каб кожны канфлікт Расеі з Эўропаю не канчаўся ім масавымі магіламі "кажнаму чацьвертаму". Няўдача з беларускай нацыянальнай ідэяй абернецца ў цывілізацыйную катастрофу на гэтай тэрыторыі, у палігонны заказьнік расейскага генштабу. У другую Карэлію, якая магла-б жыць па-фінску, а жыве па-абарыгенску.

Пытаньне беларускай нацыянальнай ідэі ёсьць безальтэрнатыўнае: будзе яна — будзе і Беларусь, ня будзе яе — ня будзе і Беларусі. Гэта нам гарантуе Гісторыя.

P.S. — З усіх савецкіх прэзыдэнтаў у былых савецкіх рэспубліках адзін Аляксандр Лукашэнка надалей заядла савецкі, чым сам сабе падпісаў цяжкі прысуд, ад якога няма апэляцыі.

З падрыхтаванага да выданьня ў Гародні зборніка **"Беларуская нацыянальная ідэя"** пад рэдакцыяй прафэсара Алеся Астроўскага.

# ЦЁТКА ІРЭНА

(Слова ўдзячнасьці беларускай жанчыне Ірэне Каляда-Сьміроў з места Кліўленд, ЗША.)

**На пачатку цёплага сэзону мы ў Згуртаваньні "Бацькаўшчына" задумаліся над тым, як дапамагчы нашым дзецям падправіць аслабленае здароўе. Меркавалі, што найлепш было-б наладзіць адпачынак дзяцей паза межамі Беларусі, у цёплых краінах, дзе сапраўды можна падмацаваць здароўе, не баючыся дзейнасьці радыяцыі. Сёньня такі адпачынак нямала каштуе, і мала якія бацькі змогуць сабраць патрэбныя сродкі, тым больш у сем'ях беларускіх інтэлігентаў. Колькі разоў даводзілася бачыць, як праводзілі летнія канікулы на асфальце беларускія дзеці многіх з тых людзей, хто аддае свае сілы і час на адраджэнскую працу. Сем'і навуковай і творчай інтэлігенцыі ня маюць сёньня патрэбнага матэрыяльнага забесьпячэньня і дзеці іх пазбаўлены ў многіх выпадках самага неабходнага. Менавіта пра іх думалася, калі распрацоўвалі праграму Згуртаваньня на летні адпачынак.**



**Некалькі гадоў таму назад мы ладзілі летнікі на Нарачы, куды прыязджалі і дзеці з беларускага замежжа. Цяпер вырашылі зьвярнуцца самі да беларусаў замежжа ў пошуках сродкаў для аздараўленьня дзяцей з Беларусі. Па ранейшаму баліць душа за Бацькаўшчыну ў нашых замежных суродзічаў, думаюць яны пра нас, пра наша няпростае жыцьцё. Знайшлі і мы сярод беларускай эміграцыі добрага чалавека. Жыве ў далёкім амэрыканскім горадзе Кліўленд сьціплая жанчына з добрым сэрцам — Ірэна Каляда-Сьміроў. Маладой дзяўчынаю аказалася яна пасьля ваеннай віхуры на чужыне, дзе ўладзіла свой лёс. Як толькі адчыніліся 'жалезная заслона', прыехала на Радзіму, у Беларусь, пабывала ў родных мясьцінах, наведала пацярпелыя ад Чарнобыля раёны Палесься. Да сёньня не можа забыцца пра тыя жахлівыя карціны — хворыя, паміраючыя ад радыяцыі дзеці ў шпіталях. Тады дала сабе зарок — дапамагаць дзецям Беларусі, колькі хопіць сілы. Вярнуўшыся ў ЗША стварыла дзіцячы фонд, і з таго часу гэтая праца — яе паўсядзённы клопат.**

**Гэта нам тут здаецца, што ў той Амэрыцы грошы з неба падаюць. Спадарыні Ірэне даводзіцца цяжка працаваць, каб зарабіць такія патрэбныя для беларускіх дзяцей грошы. Праз яе ласку ўжо некалькі гадоў выязджалі на адпачынак значныя групы дзяцей. У мінулым годзе дзеці адпачывалі ў Славеніі, на Адрыятычным моры, у гэтым годзе выязджалі ў Чэхію і Эстонію.**

**Не адмовіла Спд. Ірэна і "Бацькаўшчыне". Дзякуючы яе фінансавай дапамозе мы змаглі арганізаваць групу каля сарака дзяцей з Гомельскай вобл. і дзяцей беларускай інтэлігенцыі для выезду іх на адпачынак у Турцыю. Дзеці цудоўна бавілі час на беразе Эгейскага мора, набіраліся сіл і здароўя пад паўднёвым сонцам, дыхалі чыстым паветрам, плёскаліся ў цёплых ласкавых хвалях, колькі хацелі наядаліся фруктамі і гароднінай, запасьліся вітамінамі на цэлую зіму. Да таго-ж паездка аказалася і надзвычай пазнавальнай для нашых маладых беларусаў. Заходняя Турцыя, дзе яны адпачывалі, уяўляе сабой суцэльны музэй. Менавіта тут, на ўзьбярэжжы легендарнага Эгейскага мора адбываліся многія падзеі з гісторыі старажытнай Грэцыі і Рыму. Недалёка ад нашага гатэлю знаходзіліся рэшткі старажытнага грэцкага места Эфэса, дзе захаваліся падмуркі аднаго з 7-мі цудаў сьвету — Храма Арцэміды. Там-жа, непадалёку, стаіць "домік маці Марыі". Сюды, пасьля расьпяцьця Хрыста, прыйшла Маці Божая, каб дажываць у адзіноце свой век. Цяпер у гэта сьвятое для ўсіх хрысьціян месца прыязджаюць турысты з розных куткоў сьвету. Наведалі нашы дзеці і цікавы прыродны запаведнік — Памуккале, а разам з тым і пабачылі там захаваныя гісторыяй рэшткі старажытнагрэцкага места Гэраполіса, дзе стаіць да нашых дзён каменны амфітэатр рымскага ўзору — на 35 тысяч месцаў, астаткі храма і пахавальнікаў.**

На Турэцкім узьбярэжжы Эгейскага мора разьмяшчаецца і знакамітая Троя.

Асаблівае ўражаньне пакінуў Стамбул, старажытны Канстантынопаль. Менавіта тут знаходзіцца знакамітая хрысьціянская сьвятыня — Храм Сьвятой Сафіі...

Наша падарожжа і адпачынак у Турцыі пакінулі незабыўныя ўражанні ў дзяцей. Мы былі ўдзячныя краіне, якая цёпла і ветліва нас прывітала і апекавала. Але мы ні на хвіліну не забывалі пра тое, што маглі мець усе гэтыя даброты найперш з ласкі Спд. Ірэны, якая сама нават не знаходзіць часу для адпачынку. Часта ўспаміналі яе і неяк міжволі дзеці пачалі называць яе між сабою "цётка Ірэна". Цудоўныя беларускія словы-звароты: "цётка, дзядзька". Раней ужываліся паўсюдна і былі адметнасьцю беларускага побыту. Так вось сам сабою і прыжыўся гэты зварот у адносінах да Спд. Ірэны Каляда-Сьмірноў, якая стала сапраўды клапатлівай цёткаю для многіх беларускіх дзетак. Ад нашых дзяцей, што атрымалі праз яе клопаты магчымасьць добрага летняга адпачынку і аздараўленьня, мы выказваем ёй шчырую падзяку і зычым самой моцнага здароўя і Боскай падтрымкі ў добрых справах...

Мы сёньня ў большасьці ўжо ня верым, што ёсьць такія самаахвярныя людзі на сьвеце, што здольныя пранікнуцца патрэбамі іншых і аказаць некаму рэальную дапамогу. Сьвет зьмяніўся не да лепшага, развучыліся дапамагаць адзін аднаму... Ня кожны мае ад прыроды добрае сэрца, адкрытую душу. Але кожны можа навучыцца ў сваім жыцьці міласэрнасьці, старацца чыніць дабро бліжнім сваім так, як гэта робіць беларуска з Клііўленду Ірэна Каляда-Сьмірноў.

*Ганна Сурмач,*
старшыня РЗБСьвету "Бацькаўшчына".

## Зь Беластоку й Вільні на Беларусь будуць вяшчаць новыя радыё

У канцы жніўня польская Рада радыёвяшчаньня і тэлебачаньня выдала суполцы «Рацыя», галоўным удзельнікам якой зьяўляецца Беларускі саюз у Польшчы, канцэсію на выпуск радыёперадачаў на звышкароткіх і кароткіх хвалях.

Гэтай падзеі папярэднічала нечаканая вострая дыскусія ў польскім беларускім асяродзьдзі. Супраць новай радыёстанцыі, якая, адразу было ясна, будзе вяшчаць ня толькі на Беласточчыну, але й на Беларусь, выступілі пісьменьнік Сакрат Яновіч, які жыве ў Крынках, і мастак Лявон Тарасэвіч з Гарадку, два найбольш вядомыя ў польскім асяродзьдзі беларускія інтэлектуалы. Якія былі прычыны іх пратэсту? Яўген Міровіч у апошняй беластоцкай «Ніве» сьцьвярджае, што рэч проста ў асабістых амбіцыях і перанясеньні прыватных нярпязяў (да Яўгена Вапы і Алега Латышонка, галоўных арганізатараў радыё «Рацыя») на грамадзкую справу. Ясна, што публічныя аргумэнты Яновіча й Тарасэвіча былі іншымі. Сакрат Яновіч апэляваў да інтарэсаў дзяржавы — быццам бы беларускай. Паводле яго, беларускае радыё ў Беластоку будзе мацаваць рэжым Лукашэнкі, бо той знойдзе ў ім публічнага ворага і стане казаць: «Вось, палякі вядуць сваю прапаганду» — і што ня трэба беларускі рэжым дражніць. На выступленьні Яновіча й Тарасэвіча ў «Gazecie Wyborczej» адгукнуліся салідарніцкая «Gazeta Współczesna» і лібэральны «Kurier Poranny».

Абедзьве газэты чарговую дыскусію ў беларускім асяродку ацэньвалі з пункту гледжаньня польскай «рацыі стану», то бок дзяржаўнага інтарэсу. «Kurier» падкрэсьліў, што польская рацыя стану патрабуе, каб праваслаўны люд усходняй Беласточчыны як найхутчэй ператвараўся зь сёньняшняй протаэтнічнай масы, ласай на папулісцкую дэмагогію, у частку беларускага народу, сьвядомага сваёй ролі сярод іншых эўрапейскіх народаў. І таму, маўляў, стварэньне добрага беларускага радыё на Беласточчыне карыснае для польскага дзяржаўнага інтарэсу.

Эндэцкая польская рацыя стану, прадстаўленая ва «Współczesnej», выглядае зусім інакш. Паводле яе, беластоцкі крэсавы люд — гэта не народ, а кандыдаты ў палякі. Затое ёсьць праблема польскай меншасьці ў Беларусі. Новае радыё можа ўскладніць адносіны з Лукашэнкам, які ў рэакцыю можа пачаць дыскрымінаваць тамтэйшых палякаў. Польская рацыя стану, паводле «Współczesnej», патрабуе гарантыяў для польскай меншасьці ў Беларусі і рынку збыту на ўсходзе для польскіх прадуктаў. Хто і як кіруе суседняй дзяржавай — у прынцыпе няважна. І ніякае радыё непатрэбнае.

Зразумела, што польскія газэты ня ўлічваюць беларускіх дзяржаўных інтарэсаў. Ці нармальная сытуацыя, калі беларуская нацыянальная меншасьць у Польшчы імкнецца ўплываць на лёсы беларускай мэтраполіі? Так, бо мы ўсе адзін народ. Гэта іх права. Больш, гэта іх беларускі абавязак. Ці прывядзе гэта да пагаршэньня беларуска-польскіх дачыненьняў? Пагоршыць гэтыя дачыненьні на палітычным узроўні мацней, чым яны цяпер кепскія, немагчыма, а эканамічныя, як паказвае досьвед, больш залежаць ад цаны бэнзыну й карумпаванасьці мытнікаў, чым ад палітычнай кан'юнктуры. Ці падставіць гэта пад удар беларускіх палякаў? Але й тут, як паміж дзяржавамі, далей няма куды — дыскрымінацыя школаў, нежаданьне рэгістраваць Саюз палякаў і г.д. Ці будзе гэтае польскае радыё выклікаць у беларусаў Беларусі адпрэчваньне? Не, бо яго, у адрозьненьне ад беларускай рэдакцыі Польскага радыё, будуць рабіць прафэсійныя беларускія журналісты зь Беларусі, якія ня будуць вымаўляць беларускіх словаў з кракаўскім акцэнтам і палянізаваць мову да непрыстойнасьці. Ці будзе радыё «Рацыя» лішнім для Беларусі? Такія сама радыёстанцыі мусілі б паўстаць у Літве і Ўкраіне. Будзем спадзявацца, што вяшчаць яно будзе і ўдзень, і ўначы, што якасьць прыёму будзе лепшай, чым цяпер у «Свабоды» і што будзе яно музычным.

Мы паспрабавалі даведацца ў тых беларускіх мэнэджэраў і журналістаў, што маюць дачыненьне да радыё «Рацыя», нейкія «шчэгулы». Усе трымаюць зарок маўчаньня. Значыць, справа сур'ёзная. Беларускія ўлады баяцца новага радыё так сама моцна, як калісь баяліся «101,2 FM». Толькі тут у іх рукі кароткія.

**Барыс Тумар**

«Наша Ніва»

## Балтыйскія хвалі» атрымалі ліцэнзію

На мінулым тыдні беларускае радыё «Балтыйскія хвалі» нарэшце атрымала ў Камісіі радыё і тэлебачаньня ліцэнзію на вяшчаньне. Чацьвёра заснавальнікаў — літоўцы на чале з дэпутатам Сэйму Р.Плейкісом, а чацьвёра — нашы, зь Беларускага Інфармацыйнага Цэнтру. Справа з гэтай ліцэнзіяй цягнецца яшчэ зь вясны, пра што мы ня раз пісалі. То літоўцы баяліся, што нацэленае на Беларусь радыё падарве добрыя дачыненьні з суседняй краінай, то пасол РБ У.Гаркун хадзіў паходы ў літоўскую прэзыдэнтуру, каб «пресечь», а то нават Лукашэнка раз-другі заявіў, што ён ужо «пресёк». Ажно Літве, відаць, свабода слова даражэйшая за нелегітымнага суседа, і таму вынік ёсьць. Мяркуецца, што радыё пачне працу з новага году, будзе вяшчаць на сярэдніх хвалях. Праграма складаецца з уласных інфармацыйных перадачаў, а таксама з рэтрансьляцыі беларускага Радыё Свабода, беларускай праграмы польскага Радыё-5 і сяго-таго яшчэ. Такім чынам, новае радыё прапануе слухачу («Балтыйскія хвалі» будзе добра чуваць у Менску) паўнавартасны ранішні і вечаровы інфармацыйны эфір — без цэнзуры.

# На апошняй мяжы...

«ПАГОНЯ»

**Калі ўлетку 1994 года Аляксандр Лукашэнка прымаў краіну - гэта была тыповая постСССРаўская рэспубліка, якая вельмі паспяхова будавала знешнія атрыбуты незалежнасці, і чакала радыкальнай эканамічнай рэформы. Прайшоў тэрмін, на які абіралі прэзідэнта. Сёння Беларусь уяўляе адасобленую тэрыторыю амаль без кантактаў са знешнім светам, з рэжымам паліцэйскага кіравання ва ўсіх галінах дзейнасці і самазабойчай эканомікай валюнтарысцкага сацыялізму. Краіна мэтанакіравана і паслядоўна пазбываецца грунту, на якім трымалася яе незалежнасць.**

За ўсе пяць гадоў дзяржава нават не сфармулявала свайго знешнепалітычнага інтарэсу. На што прэтэндуем, чаго просім, што прапануем узамен і каму - нічога гэтага Еўропа не пачула. Усю знешнюю палітыку замяняе барацьба за галоўнае дзяржаўнае крэсла ў Расіі, гэтак званая інтэграцыя. Час ад часу кіраўніцтва краіны рабіла замежныя вояжы ў слабаразвітыя краіны Блізкага і развітыя Далёкага Усходу, папярэдне пратрубіўшы пра заключэнне астранамічных кантрактаў, але практычна ніхто не спакусіўся на іхнія прапановы. Замест таго, каб прадстаўляць сваю краіну на знешнепалітычнай арэне, вышэйшая службовая асоба Беларусі гойсае па расейскай глыбінцы на манер камівояжора, спрабуючы ўперці тамтэйшым абарыгенам заляжалы тавар са скідкай.

Каб хоць неяк зафіксаваць сваю прысутнасць у міжнародным жыцці, час ад часу робіцца крыклівыя заявы з нагоды якіх-небудзь спрэчных і гарачых пытанняў: па праблеме Косава, правах былых камуністаў у Прыбалтыцы альбо проста пра замахі ЦРУ на «сінявокую рэспубліку». Паталагічная нянавісць да NATO і каштоўнасцяў заходняй цывілізацыі, каналізацыйная вайна за амбасадарамі за стратэгічны населены пункт Дразды не толькі безнадзейна сапсавалі дачыненні з Еўропай і Злучанымі Штатамі, але рэальна прывялі да міжнароднай ізаляцыі Беларусі. Дайшло да таго, што чыноўнікаў беларускага ўрада, нібыта нейкіх нелегальных мігрантаў ці крымінальнікаў, сталі не пускаць да сябе краіны Захада. «Мы нікому там не патрэбныя», - вяшчаюць майстры прапаганды і палкоўнікі дэзінфармацыі. Гэта ісцінная праўда - яны там нікому не патрэбныя.

Замест таго, каб праводзіць эканамічную рэформу, якая была падрыхтаваная папярэднімі дзеяннямі ўрада Кебіча і законамі, прынятымі Вярхоўным Саветам, першы прэзідэнт пачаў узнаўляць камандна-адміністратыўнае кіраванне эканомікай. У выніку была цалкам знішчана фінансавая сістэма краіны, грошы больш не выступаюць сродкам плацяжу, а вытворчасць любой прадукцыі не вядзе да росту заробкай платы, даходаў насельніцтва і дзяржавы. У сельскай гаспадарцы поўны заняпад, бо паводле палітычных меркаванняў захоўваецца прымітыўная сістэма прыгоннай працы ў калгасах. Актуальным стала пытанне харчовай бяспекі краіны. Урад афіцыйна адмовіўся ад выкарыстання ў беларускай эканоміцы ўласных грошай. Гэты крок вядзе толькі ў адзін бок - страціўшы рычагі фінансавага ўплыву на нацыянальную эканоміку, беларускі ўрад непазбежна страціць і палітычны кантроль за эканомікай. Усё нацыянальнае багацце: заводы, нетры, прыродныя рэсурсы пяройдуць пад кантроль расейскіх алігархаў і крымінальнага капіталу. Палітычная надбудова ў выглядзе ўрада, «палатаў», «вертыкалі» і самога «боса» ператворыцца ў дэкарацыю для спектакля, сцэнар якога будзе пісацца недзе «далёка на Усходзе». Гэта будзе тыповы сцэнар рабавання каланізатарамі захопленых тэрыторыяў. Тым часам, прэзідэнт перайшоў на поўнае дзяржаўнае забеспячэнне: калі ўсё насельніцтва ледзьве зводзіць канцы з канцамі, ён устроіў сабе натуральны камунізм.

Зрэшты, пра «боса». Гэта ж трэба было злаўчыцца, каб нават не здолець аформіць працяг прэзідэнцкіх паўнамоцтваў большменш даказальна з юрыдычнага пункту гледжання. У выніку вядучыя краіны свету ўжо заявілі пра страту легітымнасці прэзідэнтам Беларусі. Значныя палітычныя фігуры Расіі, напрыклад Яўлінскі, аднназначна заяўляюць пра тое, што не будуць падпісваць дагаворы з асобай, якая больш не прадстаўляе беларускую дзяржаву і народ Беларусі. У выпадку неабходнасці гэтую пазіцыю могуць заняць прэзідэнт Расіі ці яе Дума - нагодай можа быць любы рэзкі крок А.Лукашэнкі ў накірунку барацьбы за пасаду кіраўніка Расіі. Такім чынам, беларускі лідар трапляе ў залежнасць ад любога патрабавання суседняй дзяржавы.

Усё больш паглыбляецца палітычны крызіс унутры краіны. Сумнеў у легітымнасці вышэйшай улады - неверагодна спрыяльная глеба для змоваў, пераваротаў, сепаратызму і актывізацыі на нашай тэрыторыі дзейнасці спецслужбаў суседніх дзяржаваў. Адна фраза спікера С.Шарэцкага - пра тое, што ён паводле Канстытуцыі пераймае ўладу - выводзіць крызіс на новую ступень. Добра, што спікер нерашучы і не карыстаецца падтрымкай. Але спікера можна замяніць, і як меней адзін кандыдат ужо ў наяўнасці. Сітуацыя спрыяе таксама махлярству ўсялякіх авантурыстаў, махінацыям у бізнесе, карупцыі. У сферы духоўнага жыцця хуткімі тэмпамі развіваюцца нявер'е ў грамадскія інстытуты, п'янства, наркаманія, усёдазволенасць, радыкальныя суполкі і рухі. Міжнародныя арганізацыі ўсё болей уцягваюцца ва ўнутраныя справы краіны, а некаторыя дзяржавы могуць выказаць жаданне «дапамагчы» беларусам разабрацца.

За пяць гадоў наша краіна прыйшла да апошняй мяжы, за якой - страта незалежнасці і магчымасці ўплываць на свой лёс, лёс сваіх дзяцей і унукаў. Зусім не гэта нам абяцаў у 1994-м кандыдат у прэзідэнты А.Лукашэнка.

**Сяргей Самасей**

# Ці магчыма рэалізацыя нацыянальнай ідэі ў сучаснай Беларусі?

"Наша Слова"

Каб адказаць на пытанне пастаўленае ў назве майго артыкула, спярша трэба вызначыць, што такое беларуская нацыянальная ідэя, а ўжо потым вырашаць, ці магчыма яе здзяйсненне ў сучаснай Беларусі.

Яшчэ гадоў 5-7 назад у нас на слыху вельмі рэдка гучала такое спалучэнне слоў, як "нацыянальная ідэя". Мы чулі словы "нацыянальнае адраджэнне, "нацыянальная свядомасць", нарэшце "нацыяналізм"... і тут раптоўна пачаліся пошукі, так званай "нацыянальнай ідэі". І шукалі – хто ў беларускім нацыянальным адраджэнні, хто ў нацыянальнай палітыцы Беларусі, хто ў геапалітыцы. Падкрэслю – пачаліся пошукі не нацыянальнай сутнасці, не нацыянальных беларускіх інтарэсаў,ці чаго-небудзь яшчэ іншага, а менавіта ідэі.

А ці чулі вы пра англійскую, ці польскую нацыянальную ідэю? Скажаце, што не. Мы чулі пра Англію, пра Польшчу, пра англічан і палякаў. Ведаем пра іншыя дзяржавы і нацыі. Інакш кажучы, мы ведаем, што такое дзяржава і што такое нацыя. І, калі нехта загаворыць аб такой незалежнай дзяржаве, як Беларусь, то ён будзе мець на ўвазе краіну, у якой жывуць беларусы, у якой культура беларуская, у якой унутраная і знешняя палітыка нацыянальная, беларуская.

Дык вось, з'явіўся гэты тэрмін толькі таму, што фактычна няма такой незалежнай дзяржавы Беларусь – краіны, якая адпавядае агульна прынятым нормам незалежнай і нацыянальнай дзяржавы. Пастаянна чуецца: "Мы не проживём без России". І ў той жа час нават на прэзідэнцкім узроўні вядуцца пошукі гэтай самай "нацыянальнай ідэі". Ідзе, па сутнасці, падмена нацыянальнага адраджэння Беларусі нейкам новай праграмай пад назвай "беларуская нацыянальная ідэя", вынікам ажыццяўлення якой з'яўляецца не ўмацаванне дзяржаўнасці Беларусі, а дзейнасць на апраўданне анексіі Беларусі ў склад Расеі.

Апошнім часам дагаварыліся нават да таго, што некаторыя з маладых бачаць вышэйшую місію Беларусі – "у прасвеце і выратаванні вялізарнай, грэшнай Расеі" і лічаць, што "ўздымаць Усходнюю Еўропу – на нашым сумленні". Вось так! У нас адзін старшыня саўгаса, стаўшы прэзідэнтам ужо прасвятляе Расею і павучае не толькі Усходнюю Еўропу, а ўвесь свет! Таму зразумела, што гэтыя думкі аб місіянерстве Беларусі не маюць нічога агульнага з беларускай нацыянальнай ідэяй.

На маю думку гледжанне на праект пад назвай нацыянальная ідэя павінна пачынацца найперш з асэнсавання намі сябе грамадзянамі той зямлі на якой мы зараз жывём і будзем жыць заўсёды. Разважанні аб Беларускай нацыянальнай ідэі павінны быць у першую чаргу разважаннямі аб магчымасці рэалізацыі беларускай дзяржавы, як нейтральнай, дэмакратычнай, незалежнай краіны, аб сцвярджэнні беларускага народа, як паўнавартаснага ў сям'і народаў зямнога шара, аб беларускай мове, як мове гэтага народа, аб беларускай культуры, як адметнасці ўласцівай толькі гэтаму народу.

Падсумоўваючы я б сказаў наступнае: Беларуская нацыянальная ідэя гэта праект рэалізацыі Беларускай дзяржавы і беларускай нацыі.

Цяпер, трохі вызначыўшыся з тэрмінам "Беларуская нацыянальная ідэя", як з часовым тэрмінам пераходнага перыяду да нашай незалежнасці, можна перайсці да разгляду нашых шанцаў па яе рэалізацыі.

На маю думку, рэалізацыя Беларускай нацыянальнай ідэі не толькі магчымая, а і непазбежная. XX-е стагоддзе – гэта росквіт нацыянальных культур, трыумф нацыяналізму і масавае ўтварэнне нацыянальных дзяржаў.

Чаму ж Беларусь аказалася адзінай краінай, паўстаўшай на развалінах СССР, якая не пайшла па шляху прагрэсу, як гэта зрабілі нашыя суседзі – Летува, Украіна і іншыя?

Прычыны мне бачацца менавіта ў колеры гэтага геаграфічнага ўтварэння Беларусь. А колер яго чырвоны. У 1991 годзе камуністычная сістэма рухнула. Упершыню ў гісторыі камуністы пацярпелі крах па ўсёй тэрыторыі магутнага і разам з тым пачварнага ўтварэння – СССР. Яны канешне існуюць і зараз, але іх улада паўсюдна вельмі абмежаваная. Толькі ў Беларусі ім удалося цалкам захаваць свае пазіцыі. Незадарма Беларусь завуць аазісам камунізму. Толькі тут захавалася камандна-адміністратыўная сістэма з усёй сеткай былой камуністычнай наменклатуры, якая імгненна прыстасавалася жыць без партбілетаў. Я свядома не краную цяперашніх беларускіх камуністаў, бо яны якраз і аказаліся крайнімі – з аднаго боку з абоймы Сістэмы выпалі, бо трымаліся за камуністычную ідэю і партбілеты – і з другога боку на іх валяць усе грахі папярэдняй сталінскай гісторыі. Сапраўдныя ж акулы камуністычнага рэжыму ніколі не выпадалі з наменклатурнай абоймы. Так, былі нейкія ператасоўкі, ракіроўкі і нават больш істотныя перамяшчэнні, як у прыкладзе з небывалым скачком шклоўскага Сашкі ў "князі" – прэзідэнты.

І вось цяпер мы нарэшце і падыйшлі да самага галоўнага – адказу на пастаўленае ў загалоўку пытання. Можна сказаць практычна без усякіх агаворак – корань усіх нашых бед у тым, што камуністычная сістэма ў Беларусі засталася амаль некранутая. Яна, нават, умацавалася, бо шчыльна зраслася з крымінальнымі, мафіёзнымі структурамі. Толькі знішчыўшы ўсе камуністычныя структуры, як першую ўмову пераходу да дэмакратыі, мы зможам распачаць пабудову новай дэмакратычнай Беларусі. Незадарма ва ўсіх посткамуністычных краінах – Польшчы, Чэхіі, Летуве, Латвіі і іншых вельмі ўважліва ставіліся ў свой час і ставяцца зараз да праблемы ліквідацыі камуністычнага рэжыму. Там паўсюдна былі прынятыя законы аб люстрацыях, былі рассакрэчаны архівы КДБ, былі асуджаны камуністычныя дыктатары.

У пачатку 90-х гадоў на тэрыторыі сацыялістычнай Усходняй Еўропы і на развалінах СССР узнік рух за асуджэнне злачынстваў камуністычнага рэжыму, камуністычных партый і камуністычнай ідэялогіі. Гэты рух атрымаў назву міжнароднага Суду над камунізмам "Нюрнберг-2". Мне давялося ўдзельнічаць у некалькіх міжнародных канферэнцыях, прысвечаных гэтай праблеме. Сутнасць гэтага Суду ў тым, што ўсе мы павінны ачысціцца ад камуністычнага бруду, ад неакамунізму. І гэта неабходна як для ўсяго грамадства, так і для асобных людзей.

У артыкуле Л. Баршчэўскага і У.Падгола ў "Народнай волі" таксама гаворыцца аб неабходнасці аналагічнага суду, але аўтары абмяжоўваюцца Грамадскім Судом. Мне ж падаецца, што гэты акт павінен быць больш шырокім і жорсткім, і ён павінен насіць як лакальны, так і міжнародны характар. Я лічу, што Суд павінен быць не толькі Грамадзянскім, хаця і такая форма правамоцная, а самым што ні ёсць юрыдычна-прававым і праводзіцца ў адпаведнасці з крымінальнымі кодэксамі пацярпелых ад камунізму краін.

Адначасова трэба правесці акцыю пад назвай "Ачышчэнне", дзе б усе, хто хоць неяк спрачынуўся да камуністычнай заразы змаглі па-хрысціянску пакаяцца і ачысціцца ад гэтага сатанінскага граху.

Што яшчэ? Разважанні аб нацыянальнай ідэі, нагогул трэба замяніць кароткім заклікам "SOS!". Трэба ратаваць Беларусь. Мы, беларусы можам хутка знікнуць як этнас. Лукашэнка паспяхова выконвае заданне расейскіх спецслужб аб знішчэнні беларускай нацыі. 200 гадоў існавання ў Расейскай імперыі не знішчылі беларусаў, мы пратрымаліся нават і ў гады савецка-бальшавіцкай навалы. А вось за 4 гады Лукашэнскаўскага прэзідэнства зроблена тое, што не здолелі зрабіць усе папярэднія русіфікатары за стагоддзі.

Пашпарты мы ўжо мае без графы "нацыянальнасць". Не за гарамі і ліквідацыя дзяржаўнасці.

Лукашэнка несумненна войдзе ў гісторыю на векі, Антычны Герастрат увайшоў у гісторыю толькі знішчыўшы храм. Аляксандр Рыгоравіч увойдзе як Герастрат цэлага народа.

Надыйшоў кртычны момант. Наспеў час зноў склікаць нашую старажытную Пагоню. Хопіць міжусобных спрэчак паміж рознымі партыямі і амбіцыйнымі лідэрамі. Пагоня XIII-га стагоддзя збірала ўсё насельніцтва здольнае насіць зброю для сумеснай абароны ад ворагаў. Адродзім сучасную Пагоню ў новай, цывілізаванай форме, збярэмся ўсе пад бел-чырвона-белыя штандарты і абаронім нашу Бацькаўшчыну! Жыве Беларусь!

***Старшыня Беларускай нацыянальнай партыі Анатоль Астапенка.***

---

# Як хочуць слова забараніць

Час ад часу слухаю па беларускім радыё перадачу "Разговор по существу" і не перастаю здзіўляцца тым адкрыццям, якія робяць вядучыя і іх субяседнікі, тым паралелям, што праводзяцца падчас гэтай размовы. Ну як не падзякаваць кандыдату гістарычных навук, а зараз, па словах вядучай, вядомаму беларускаму палітыку Сяргею Касцяну за тое, што ён адкрыў нам вочы і дапамог разгледзець "хто ёсць ху" у НАТО і па чыёй віне працяглы час вяліся бамбардзіроўкі Югаславіі. Аказваецца, ва ўсім вінаваты "жыда-масоны" на чале з Клінтанам, Саланай і Мадлен Олбрайт.

Яшчэ больш цікавымі акзаліся словы спецпрадстаўніка Лукашэнкі Віктара Кучынскага. Ён прывёў "яскравыя" прыклады, якія сведчаць аб працвітанні на Беларусі сапраўднай дэмакратыі, у адрозненне ад "так званага" цывілізаванага свету: "Калі негры захочуць у ЗША стварыць афрыканскія злучаныя штаты, ім не дазволіць зрабіць гэта ўрад. Ці вазьміце тую ж так званую дэмакратычную Германію. Там таксама не дазволяць туркам, якіх пражывае вельмі многа, аддзяліцца ад Германіі і стварыць сваю "дзяржаву".

Што да чаго, якое дачыненне мае наша дэмакратычная апазіцыя да амерыканскіх неграў ці нямецкіх туркаў — ні я, ні іншыя слухачы так і не зразумелі. Але, уяўляеце, якая глыбіня мыслення, якія філасофскія абагульненні! Гэта і ёсць сапраўдны ўзровень як нашых палітыкаў пры ўладзе, так і самой улады. Дарэчы, і апазіцыя, і прайшоўшыя ў траўні выбары прэзідэнта, і краіны сапраўднай дэмакратыі, і дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання і шмат іншага, што не па нутру вядучым і суразмоўцам гэтай перадачы, — усё ў іх абавязкова "так званае". Відаць, каб падкрэсліць іх несур'ёзнасць і ўзвысіць сваю велічнасць і мудрасць.

Уразіла мяне і перадача з удзелам Уладзіміра Ядранцава, аднаго з радыёначальнікаў. Свой выступ ён пачаў на расійскай мове "из уважения к ведущему". Тое, што былі такім чынам праігнараваны нацыянальныя пачуцці беларусаў, гэтага чыноўніка ніколькі не хвалявала. Сярод пытанняў, зададзеных Ядранцаву падчас прамога эфіру, было адно ад вельмі нервовага слухача: калі, маўляў, на Беларускім радыё забароняць слова "спадар?". Міжволі парадаваўся за гэтага сталага чалавека, у якога толькі і праблем, каб слова гэтае не дапусціць да мікрафона. Відаць, і з грашыма, і са здароўем у яго ўсё ў парадку. А "товарищ" Ядранцаў між тым тлумачыў пільнаму грамадзяніну, што такі загад ён ужо аддаў, што "слово это не наше, не белорусское, и больше на радио оно звучать не будет".

Уздыхнуў я і зразумеў, што дрэнна гэты Ядранцаў вывучаў універсітэцкія навукі. Быў бы я выкладчыкам, двойку па гісторыі беларускай літаратуры ўляпіў бы яму не гледзячы. Таму што слова "спадар" ёсць самае што ні ёсць беларускае. Яшчэ ў дапісьмовым перыядзе вусным славянскім мовам быў вядомы корань "спадар". Слова ж "гаспадар" у старабеларускай мове ўжывалася са значэннем "уласнік", "уладальнік" дома альбо маёнтка, а таксама "правіцель" у дачыненні да тытула Вялікага князя Літоўскага. Зафіксавана скарачэнне гэтага слова, дзе аснова скарачалася ў "осподар", а потым у "сподар".

Сучасная форма "спадар" (як самастойная) стала вядома, "товарищ" Ядранцаў, ажно з XV стагоддзя, калі згодна з прынцыпам беларускага вымаўлення і правапісу, яна набыла "аканне". Слова хутка распаўсюдзілася ў жывой мове, аб чым сведчыць яго наяўнасць у розных літаратурных помніках.

А напачатку XVIII стагоддзя ў Баркулабаўскім летапісе — творы шырока вядомым і які вывучаецца, дарэчы, на факультэце журналістыкі БДУ, што закончылі Вы, Уладзімір Іванавіч, упершыню з'явілася і "спадарыня". Пра этымалогію слова "спадар" неаднойчы пісалі В.Ластоўскі, І.Насовіч. А вы хочаце гэтае слова забараніць — ці не смешна?

Здагадваюся, адкуль растуць вушы ў гэтай забароны. У свой час да нас у Светлагорск прыязджаў тады яшчэ дэпутат Аляксандр Лукашэнка. Пасля гарачай прамовы хтосьці з залы звярнуўся да самага галоўнага антыкарупцыянера са словамі: "Спадар Лукашэнка...". Будучы прэзідэнт і народны заступнік скрывіўся, нібыта ад зубнога болю, і заявіў, што вельмі яму не падабаецца такі зварот.

А ў нас так: калі што не па нутру пану, то яно "не падабаецца" і чэлядзі... Але ці варта так хвалявацца У.Ядранцаву і ўсёй гэтай кампаніі? Нікога з іх гаспадарамі ўсё роўна не назавуць — не заслужылі. Слова гэтае перажыло стагоддзі, перажыве і цяперашніх яго забароншчыкаў.

**Мікалай ПАСЕДЗЬКА.**
**г.Светлагорск.**

"Народная Воля"

Янка БРЫЛЬ:

"Наша Ніва"

# «Такая культурнасьць і такая цемра нашых людзей»

*Мой шлях да Янкі Брыля нагадваў паломніцтва. Нягледзячы на тое, што ўступыўся я а палове шостай раніцы, адзін з трох тыднёвых аўтобусаў са Стоўпцаў на Беражан пасьпеў-такі зьехаць безь мяне. У стаўпецкай кнігарні, на паліцы «60 год яднаньня», сымбалічна стаялі «Палескія рабінзоны», а мне было наканавана пракульгаць 20 км па інтэграванай калісьці зямлі Заходняй Беларусі... У вясковага дзядзькі, што трохі падвёз мяне, я спытаўся пра самае лепшае, што прынесла яму 17 верасьня. Ён пацёр свой чырвоны нос і сказаў, што раней ён жыў на нейкіх там «крэсах», а цяпер, бадай, у самым цэнтры краіны. На маю заўвагу, што хутка мы зь ім можам ізноў зрабіцца крэсавякамі, толькі ўжо заходнімі, дзядзюк толькі махнуў рукой, маўляў, не дуры галавы.*

*Дзе жыве Янка Брыль, ведаюць усе жыхары наваколля, нават тамтэйшая «зіна з магазіна», якая адмовілася прадаць мне бутэльку «Лідзкага клясычнага» («Не мяшайце работаць! Відзіце, людзі хлеб ждуць, а Вы тут са сваім півам!»). Калі я, стомлены і змардаваны смагай, ужо набліжаўся да крынічанскай сядзібы пісьменьніка, мяне наведаў нейкі сумнеў і няўпэўненасьць: чалавеку за 80, хворы, відаць, а я тут...*

*Янка Брыль адразу зазначыў, што, увогуле, стараецца не даваць інтэрвію («Нашто камусьці нешта расказваць, калі я і сам яшчэ здольны пісаць?»), але вырашыў зрабіць выключэньне, бо гаротны карэспандэнт адмахаў пешшу 20 км... Так і праразмаўлялі мы пяць гадзінаў, седзячы на дварэ за сталом ля калодзежу зь вельмі смачнай сьцюдзёнай вадой.*

**Анатоль Прасаловіч**

**— 17 верасьня спаўняецца 60 гадоў з дня ўзьяднаньня Ўсходняй і Заходняй Беларусі. Як Вы цяпер глядзіце на тое ўзьяднаньне?**

— Ну, можна талкаваць і так, і так: ведаем цяпер мы пра пакт Рыбэнтропа-Молатава, ведаем, што ўсё гэта было спланавана раней. Але вынік, які вынік? Што Беларусь узьяднана. Гэта была нібы папраўка, унесеная да Рыскага дагавору 21-га году. Была разьдзёртая папалам, а цяпер узьяднана. Каб яна, Бог даў, утрымалася так, у самастойнасьці, у незалежнасьці, дык чаго б яшчэ хацець было? Усялякія гістарычныя бываюць калізіі, усялякія зьмены-перамены, а важны вынік — узьяднаньне Беларусі. Так, праўда, яна абкарнаная, але наконт гэтай абкарнанасьці... Мы лічым, што яна абкарнаная, а літоўцы лічаць, што абкарнаная Літва.

**— А як у той час людзі паставіліся да таго, што Вільню аддалі Літве?**

— Мне цяжка сказаць, я магу гаварыць толькі з чужых словаў, бо быў тады на фронце і ў палоне, а як вярнуўся адтуль увосень 41-га, наступілі новыя часы. Не да Вільні было, калі ўжо занята было ўсё: і Вільня, і Менск, і пад самую Маскву ўжо дайшлі немцы. Тады ўжо пра гэта не гаварылася. Ясна, крыўдна. І чорт яго ведае, ёсьць некаторыя пункты на тэрыторыі Эўропы: Трыест, Гданьск быў, Адэса дамагалася, ды й Вільня магла б быць таксама, калі разумна падысьці, літоўска-беларускай сталіцай. Бо літоўцы толькі пасьля вайны зрабілі яе сваёй, іх там быў вельмі малы працэнт. Але яны сваю справу ведаюць, народ энэргічны, талковы.

**— Што Вам памятаецца зь першых дзён другой сусьветнай?**

— Як ведама, вайна пачалася з нападу немцаў на Польшчу, і вельмі шмат там палегла беларусаў ды ўкраінцаў, бо салдатаў з усходу дасылалі служыць на захад, і наадварот. Я мяркую па нашай Навагрудчыне: нашыя служылі, у лепшым выпадку, у цэнтральнай Польшчы. Я вот служыў у Гдыні, у батальёне марской пяхоты, дык там большая палова былі беларусы.

**— Як складаліся адносіны паміж жаўнерамі-палякамі і непалякамі?**

— Ніякай дзедаўшчыны не было, ні нацыянальнай, ні паміж старымі і маладымі. Былі такія вот спрадвечныя гульні дурныя, што, скажам, ідзе пяхота, а кавалерысты едуць і на іх: «трусь-трусь-трусь», «трусікі», а ўжо пяхота крычыць: «А вы кабыляжэ!» — кабыльнікі, значыць. А ў нацыянальным плане не было. Праўда, пад канец можна было заўважыць, ды й ня толькі ў арміі, дрэннае стаўленьне палякаў да ўкраінцаў, якія актыўна супраціўляліся паланізацыі. Да 1939 году супраць іх прадпрымаліся так званыя карныя пастоі, як было ў Беларусі ў сярэдзіне 20-х гадоў, калі была ў нас партызанка. А яшчэ, значыць, з габрэямі было. Яны служылі толькі ў цэнтры Польшчы, у нас у Гдыні іх не было, і афіцэры польскія заўжды падкрэслівалі, што мы маем гонар служыць там, дзе няма ніводнага жыда. Калі ж я служыў у Халме, мы дужа сябравалі з украінцамі. У выходныя дні звычайна выходзілі ў поле, песьні сьпявалі ўкраінскія, беларускія. Дык ім пазайздросьціць можна было. У нас быў звычайны салдат-артылерыст Апанас, дык ён усяго Шаўчэнку ведаў на памяць.

**— Калі Вы ўпершыню пачулі пра ўзьяднаньне?**

— 19 верасьня, калі мы здаліся немцам. Адзін афіцэр прыстаў да мяне: «Дынст грат?» Я троху са школы ведаў, кажу: «салдат, рэкрут» — і дастаў мэдаль сьмяротны, што на шыю чапляецца. Там імя, прозьвішча і ваенкамат баранавіцкі. Ён пытаецца: «Рускі?» Рускі, кажу, у сэнсе, беларус. А ён: «Рускі аўх пух-пух», што і рускія ваююць таксама.

У палоне жаўнераў польскай арміі ўсіх падзялілі: беларусы асобна, украінцы і палякі таксама. Газэты выходзілі па-беларуску, бэрлінская «Раніца», напрыклад, дзе я ўпершыню прачытаў вершы Ларысы Геніюш.

**— У чым, на Вашую думку, палягала адрозьненьне ў творчасьці пісьменьнікаў з абодвух бакоў Беларусі?**

— Мы на Захадзе мелі больш магчымасьцяў азнаёміцца з творчасьцю такіх літаратараў як Максім Гарэцкі, Алесь Гарун, чаго ў 30-х гадах у савецкіх школах ужо не чыталі. У нас у вёсках нават сьпявалі «Ой, ты, Нёман-рака» Цішкі Гартнага, «О край родны, край прыгожы» Коласа. Як беларушчыну ў канцы 20-х палякі прыціснулі, зьявіўся Танк, загрымеў. Ён хораша пісаў, за ім уся моладзь ішла, такі сапраўдны паэт. І іншыя былі — Васілёк, Ільляшэвіч, Машара — але найбольш нацыянальна акрэсьленым быў усё ж Танк, пасьля Таўлай Валянцін. У той час я быў знаёмы толькі з Васільком, мы зь ім нават адзін год былі разам у палоне, ды яшчэ з адным малавядомым, але харошым паэтам Юліянам Сергіевічам.

Яшчэ, памятаю, быў вельмі здаровы рух, скажам, супраць п'янства: моладзь ня піла. А калі хто піў, дык дзяўчыны не хадзілі зь ім танцаваць.

**— Вы мяркуеце, што ва Ўсходняй Беларусі пілі болей?**

— Дык а хто ж нас навучыў піць, заходнікаў, як ня ўсходнікі? У нас не было такога разуменьня: сто грам, шклянка... Я помню, раз на вясельлі адзін дзядзька заліхвацкі выпіў цэлую шклянку гарэлкі, дык усе стоячы глядзелі, ці разарвець яго, ці не. Да таго ж у нашай моладзі была вельмі высокая актыўнасьць у сэнсе мастацкай самадзейнасьці: ставілі спэктаклі і па-беларуску, і па-польску, і нават па-яўрэйску. Але у 30-х гадох палякі пачалі моцна глушыць беларускае падполье. Яны да Саветаў уцякалі, а іх там... Адзін мой блізкі сябар адсядзеў пяць год у польскай турме, уцёк, а ў СССР яму далі 25 «без права переписки». Адсядзеўшы 18 год, ён вярнуўся і два гады паміраў ад раку. Я яго наведваю, а ён мне пачынае гаварыць: «Ня вер ім, гэта ўсё няпраўда! Я бег са сьлязьмі на вачах, убачыўшы першага краснаармейца, а праз два дні мяне цягнулі па падлозе менскай турмы, і я з роту крывёю паліваў падлогу».

**— Якія адрозьненьні існуюць паміж заходнікамі і ўсходнікамі цяпер?**

— Цяпер, кажуць, на Берасьцейскай і Гарадзенскай абласьцях трымаецца ўся сельская гаспадарка Беларусі. У нас яшчэ працуюць людзі, не развучыліся. Але зь іншага боку, раней Мір, прыкладам, быў такім культурным мястэчкам, ешыбот быў там габрэйскі сусьветна вядомы, шмат інтэлігенцыі. А цяпер ні газэтнага кіёску, ні кнігарні, толькі аддзел у прамтаварах, дзе замест кніжак туалетная папера ляжыць на паліцах. Таксама не магу сказаць, што ў нас захавалася больш беларушчыны. Хіба што толькі існуюць яшчэ этнаграфічныя адрозьненьні. Ды яшчэ тое, што там папы тлумяць народ: «Всё это Великая Россия!», а тут ксяндзы ў польскі бок цягнуць. Шмат існуе прыкладаў, калі краіна падзеленая рэлігійна. Вазьміце Нямеччыну: поўнач — пратэстанцкая, а поўдзень — каталіцкі. Але ўсе — немцы. А ў нас іншыя каталікі так і лезуць са сваёй пальшчызнай як жабы на корч.

**— Што Вы можаце сказаць пра пісьменьнікаў Заходняй Беларусі, якія зьехалі ў эміграцыю?**

— З мацнейшых — Сяднёў, Салавей, Арсенева... Яна, Ільляшэвіч і Геніюш пачалі друкавацца перад вайной, а іншыя дык там выраслі на пісьменьнікаў. Вялікага бляску, на жаль, няма. Яны ня маюць такіх празаікаў, як нашыя Мележ, Пташнікаў ці Караткевіч. А паэты... Ну, Арсенева. Але ж нашыя Жэня Янішчыц ды Ніна Мацяш лепей пішуць. А ў Ларысы Антонаўны існуе арэол пакутніцы, сядзела столькі і мужна так паводзіла сябе, дык гэта надае асьвятленьне, афарбоўку ейнай творчасьці. Мяне, праўда, хваліе заўсёды «Магутны Божа», але ж там яшчэ і музыка Равенскага вельмі харошая. Увогуле, ня трэба параўноўваць, хто большы, хто меншы. Для пісьменьніка важна, як той казаў, ці ён крывы, ці ён просты, галоўнае — чысьціня і чалавечнасьць. Паспрабуйце параўнаць Купалу з Коласам ці Славацкага зь Міцкевічам.

**— А ці існаваў падзел на заходнікаў і ўсходнікаў у Саюзе Пісьменьнікаў?**

— Аніякага. Мы ўсе былі разам. Мяне, прыкладам, прымалі ў члены зь Іванам Мележам. Адрозьненьні існавалі і існуюць, бадай, толькі ў моўным плане. Гэта можна заўважыць, параўноўваючы мову Адамчыка і Кудраўца, Стральцова і Голуба са Скоблам.

**— Ці лічыце Вы магчымым, што ў будучыні Беларусь ізноў будзе падзеленая на дзьве часткі?**

— Упэўнены, што не. А якія для гэтага ёсьць падставы? Можа, камусьці і хочацца, каб была Заходняя Беларусь і асобна Ўсходняя, але гісторыя, разьвіваючыся па сьпіралі, толькі набліжаецца, а не паўтараецца.

**— А ўзьяднаньне Беларусі й Расеі?**

— Ня будзе аніякага ўзьяднаньня, я не прызнаю ды й не хачу яго. Дружыць як самастойная дзяржава з самастойнай, выбіраць самому сабе друга на раўнапраўнай аснове — гэта адно, а тут папахвае зусім іншым. З адной стараны, бачыце, Ельцын сказаў: «Только в одно государство!» І ня будзе называцца Беларусяй гэтае «государство», будзе Расея. А наш ужо хоча ў віцэ-прэзыдэнты ці прэзыдэнты. Нават пагаворваецца, што ён можа стаць заступнікам Ельцына. Гэта ўсё ня мае пад сабой асновы, і таму не адбудзецца.

**— Чаму частка беларускага народу падтрымлівае Лукашэнку?**

— З аднаго боку, з-за дасюлешняга калгаснага ладу жыцьця вясковага люду, а з другога боку, безумоўна, з-за несьвядомасьці нашай. Я вось жыву ў вёсцы і зьдзіўляюся, як яно можа спалучацца: з аднаго боку, такая сёньняшняя зьнешняя культурнасьць людзей, а з другога — такая цемра, што яшчэ і ў ведзьмаў вераць. Дык чаму ж ім не паверыць у ведзьмака?

**— Як, на Ваш погляд, будуць разьвівацца падзеі ў Беларусі ў бліжэйшыя гады?**

— Тут я Вам нічога не скажу. Можна як хочаш вадзіць пальцам па вадзе, але як яно будзе... Вы ж улічыце такі фактар як фактар нечаканасьці. Такі паварот можа адбыцца, што Бог яго знае. У сучаснай сытуацыі ў многім самі мы вінаватыя, бо трэба навучыцца саміх сябе крытыкаваць. Віна нашая ў нашай інэртнасьці, расхлябанасьці такой, бесхрыбетнасьці, п'янстве і тым, што зараз называюць сэксам, а раней звалася, прабачце, напрошваецца слова... Усё разам гаворыць, што сьветлым сілам, што дбаюць аб незалежнасьці, годнасьці, чалавечнасьці, цяпер вельмі нялёгка.

Алег Гардзіенка "Наша Ніва"

## «Здарова, таварышы, доўга чакалі?»

**У другой Рэчы Паспалітай адчуваўся нацыянальны ўціск. Польская дзяржава надта дбала пра ўласную бясьпеку і перасьледавала некаторыя беларускія партыі кшталту Грамады і КПЗБ. У турмы саджалі пераважна камуністаў. Праўда, ніхто ня быў расстраляны й не было ГУЛАГу, у адрозьненьне ад СССР. Беларускі драматург Францішак Аляхновіч у сваіх мэмуарах «У капцюрох ГПУ» ўспамінаў, як яго абменьвалі ў 1933 г. на станцыі Негарэлае на Браніслава Тарашкевіча. Аляхновіча, пасьля сямі гадоў Салаўкоў, прывезьлі непаголенага, апранутага ў старую зношаную куфайку. А дастаўлены з гарадзенскай турмы Тарашкевіч быў у модным палітоне, прыгожым капелюшы. Так па-рознаму выглядалі вязьні дэмакратычных Саветаў і буржуазнай Польшчы.**

**Да «ўсходніх крэсаў» даходзіла моцная савецкая прапаганда. Людзі верылі, што ў Савецкай Беларусі іхныя браты жывуць больш заможна. Той, хто нелегальна пераходзіў мяжу на Ўсход у пошуках лепшай долі, назад, як правіла, не вяртаўся, так што не было каму распавесьці пра жорсткую праўду жыцьця ў «самай вольнай краіне». Можа, таму ў беларускіх вёсках і гарадох савецкае войска сустракалі з кветкамі. Максім Танк напісаў з гэткае нагоды верш «Здарова, таварышы, доўга чакалі...»**

**За Чырвонай Арміяй на землі заходніх беларусаў паехалі беларускія музыкі, пісьменьнікі, мастакі, галоўнай задачай якіх было распавядаць «вызваленым» ад палякаў, як добра жыць і працаваць у Савецкай Беларусі. Кампазытар Мікола Шчаглоў успамінае пра такую сваю паездку разам зь Янкам Купалам: «*Пачалі паказвацца вёскі. Купала штурхнуў мяне ў бок, быццам гаворачы: «Бачыш, братку?» Я, ведама, бачыў. Вёскі былі прыгожыя, чыстыя. Хаты былі добра крытыя, з выразанымі, маляванымі аканіцамі, добра зашклёнымі вокнамі, зь вясёлымі гародчыкамі, поўнымі пышных вяргіняў і мальваў. Усё гэта было так не падобнае да бедных, шэрых калгасных вёсак савецкае зямлі, што не заўважыць розьніцы было немагчыма*».**

**У Стоўпцах яны спыніліся ў настаўніка гімназіі, які меў кватэру ў некалькі пакояў. «*Мы распытвалі гаспадароў пра іхнае жыцьцё, яны пыталіся ў нас пра нашае. Гаспадар прызнаўся, што ён зарабляў каля 400 злотых і што, адлічыўшы ўсе выдаткі на кватэру і пражыцьцё, у яго заставалася каля 150 злотых у месяц. Грошы гэтыя складаліся, а ўлетку яны з жонкай езьдзілі ў горы ці на мора адпачыць... У нас настаўнікі таксама атрымоўвалі па 400—500 рублёў, але хапала ім зь сям'ёй адно на хлеб ды бульбу*».**

**Такім пабачылі жыцьцё «гаротных» беларусаў прышэльцы з Саюзу. А за агітатарамі прыйшла новая адміністрацыя, якая стала заводзіць новыя парадкі: пачаліся мітынгі зь іхнай бясконцай балбатнёй, пошукі «ворагаў». Алесь Алехнік, дзяяч беларускай дыяспары ў Аўстраліі, які тады быў дзесяцігадовым юнаком, згадвае: «*Тады ж пачуліся й першыя «апраўданьні» камуністаў за іхныя няўдачы й няўмельства ў гаспадараньні ў Заходняй Беларусі. Самым распаўсюджаным апраўданьнем была «засуха», і я сам чуў, як палітрук аднойчы сказаў маме: «Вот чёрт побери, куда б мы ни пришли — везде начинается засуха!*».**

**Але, напэўна, самае парадаксальнае сьведчаньне прыводзіць у сваіх успамінах Барыс Рагуля, удзельнік беларускага нацыянальнага руху часоў нямецкай акупацыі й дзяяч эміграцыі. Ён служыў у польскім войску і ўдзельнічаў у польска-нямецкай вайне 1939 г. Апынуўшыся ў палоне, уцёк і перайшоў мяжу з Савецкім Саюзам. Калі з таварышам дайшоў да першай хаты на савецкім баку, дык спужаны гаспадар запытаўся, хто яны такія. «*Мы адказалі, што ваеннапалонныя,* — згадвае Рагуля, — *уцяклі ад немцаў і толькі-толькі апынуліся на радзіме... Селянін паглядзеў на нас і сказаў: «Дурні! Вяртайцеся да немцаў і прыходзьце разам зь імі, каб вызваліць нас!» ...Ён дадаў, што мы зрабілі найвялікшую памылку, калі ўцяклі ў Савецкі Саюз*».**

**Новая савецкая ўлада, забраўшы беларускую зямлю, пачала ўсталёўваць свае законы: амаль адразу аддала Вільню літоўцам, узялася ствараць калгасы. Пачаліся арышты заможных сялянаў, асаднікаў, паноў, чыноўнікаў, якія служылі польскай уладзе. Пацягнуліся эшалёны, у якіх людзей, як быдла, вывозілі на Ўсход. Пачаліся шырокія арышты сярод інтэлігенцыі. Выразалі ўсіх тых, хто так ці йнакш не падзяляў камуністычныя погляды. Некалькі тысячаў жаўнераў і афіцэраў польскага войска знайшлі свой вечны прытулак у лясох пад Катыньню.**

**Большасьць насельніцтва цярпліва зносіла пакуты, іншыя супраціўляліся. Людзі чагосьці чакалі, ненавідзячы новую ўладу... Можа таму ў чэрвені 1941 г., як і ў верасьні 1939 г., выходзілі з кветкамі й хлебам-сольлю, толькі цяпер яны ўжо сустракалі немцаў, спадзеючыся, што горш, чым пры Саветах, ніколі ня будзе. Беларусы ў чарговы раз памыліліся...**

*Ніна СТУЖЫНСКАЯ, кандыдат гістарычных навук*

# Барыс КАВЭРДА: беларускі тэрарыст узору 1927 года

**Гэтая тэрарыстычная гісторыя — адна з шэрагу самых гучных адыходзячага ХХ стагоддзя. Яна доўга не знікала са старонак прэсы еўрапейскіх краін яшчэ некалькі год пасля стрэлу Барыса Кавэрды на варшаўскім вакзале 7 чэрвеня 1927 года. Пра яе не забыліся ні ў 30-я, ні ў 40-я ваенныя гады.**

Савецкаму чытачу добра знаёмае імя ахвяры тэракта, верная бальшавіка-ленінца Пятра Войкава, які ў гэтай якасці ўвайшоў у савецкія падручнікі і энцыклапедыі. Але прайшло крыху больш за 70 год, і ў сувязі з перазахаваннем царскай сям'і ў мінулым годзе расійскае грамадства ўжо з ганьбаю ўспомніла камісара Войкава як аднаго з забойцаў манаршых асобаў.

Выпадкова ці не, але ў мінулым 1998 годзе імя Кавэрды прагучала ў адной з мінскіх кватэр, гаспадыня якой 90-гадовая Зоя Апанасаўна Грыц вучылася разам з Барысам у Беларускай Віленскай гімназіі ў першай палове 20-х гадоў.

"Усхваляваныя навіною з Варшавы навучэнцы збегліся да будынка гімназіі, — узгадала карціну мінулага спадарыня Грыц, — і горача загаманілі, выказваючы розныя думкі аб прычынах учынку свайго сябра".

Трэба ўлічваць, што забойства савецкіх прадстаўнікоў, як акт пратэсту супраць камуністычнага рэжыму, у тыя гады было даволі распаўсюджанай з'явай. Але ў дадзеным выпадку віленчуко узрушыла пытанне, чаму тэракт здзейсніў чалавек іх асяродку, знаёмы хлопец, сын вядомай усім беларусам у Вільні міласэрнай пані Ганны, загадчыцы беларускага сіроцкага прытулку.

І сапраўды — чаму? Пытанне тады і зараз вельмі няпростае.

Інтарэс да гісторыі тэракта, у выніку якога загінуў паўнамоцны прадстаўнік СССР у Варшаве Пётр Войкаў, быў настолькі вялікім, што ў асабістых архівах такіх палітычных дзеячаў той эпохі, як В.Мілюкоў, В.Бурцаў, Б.Савінкаў, адкладаліся цэлыя стосы дакументаў і публікацый пад назваю "Справа Барыса Кавэрды". (Зараз яны захоўваюцца ў адпаведных фондах аддзела белай эміграцыі Дзяржаўнага архіва РФ у Маскве.)...

Традыцыйна ў былой Расійскай Імперыі ўплыў тэрарыстычных ідэй быў вельмі вялікім. Суіснавалі і развіваліся розныя версіі тэрарызму: народавольчаская, эсэраўская, анархісцкая, бальшавіцкая, антыбальшавіцкая і іншыя. Ажыццяўляліся розныя віды гвалтоўных актаў: выбух, забойства, экспрапрыяцыі (эксы), захопы транспартных сродкаў, закладнікаў і г.д. Іх не цураліся не толькі эсэры і анархісты, але нават і сацыял-дэмакраты. Не асуджалі іх да пэўнага часу і лібералы.

"...Прынцыпіяльна мы ніколі не адмаўляліся і не можам адмаўляцца ад тэрору", — выказаўся на гэты конт правадыр Кастрычніцкай рэвалюцыі Ленін.

І сапраўды, тэрор у СССР быў адным з актыўных, калі не галоўных сродкаў дзяржаўнай палітыкі. Бальшавікі крывадушна ганьбілі тэрор, але антысавецкія эмігранты былі заўсёды аб'ектам забойства. Такія гісторыі даволі вядомыя. А шляхам масавага тэрору сталінскі рэжым знішчыў мільёны людзей у былой савецкай краіне; час той засведчыў, што грамадства прызвычаілася да гвалту, насілля. Забойства ўспрымалася як нармальны сродак барацьбы.

Аднак і тыя, хто змагаўся з савецкай уладаю, для каго грамадзянская вайна яшчэ не скончылася, разглядалі тэрор як інструмент умацавання ідэалу, а не толькі як сродак падаўлення, запалохвання і помсты. Яны былі ўпэўнены, што добра арганізаваная група людзей можа дасягнуць мэты, якой бы невераноднай яна ні здавалася спачатку.

7 чэрвеня 1927 года ў 9 гадзін раніцы паўнамоцны прадстаўнік СССР Пётр Войкаў у суправаджэнні супрацоўніка амбасады Юрыя Грыгаровіча прыбыў на галоўны вакзал для сустрэчы паўнамоцнага прадстаўніка ўрада СССР у Лондане Аркадзя Розенгольца. Сустрэўшыся, абодва накіраваліся ў чыгуначны буфет піць каву, а потым выйшлі на перон да хуткага цягніка, які адыходзіў з Варшавы ў 9 гадзін 55 хвілін. Гэтым цягніком Розенгольц павінен быў ехаць у Маскву. У той момант, калі паслаf нік Войкаў і Розенгольц знаходзіліся каля спальнага вагона, выбухнуў стрэл. Страляў невядомы мужчына.



*Барыс КАВЭРДА*
*Здымак зроблены ў Варшаве, у памяшканні суда, у дзень працэса 15 чэрвеня 1927 года.*

Нападаючы, заўважыўшы паліцыю, па патрабаванні якой ён падняў рукі ўгору і кінуў зброю на зямлю, добраахвотна здаўся ў рукі паліцыі. Заявіў, што ён Барыс Кавэрда і што страляў, маючы на мэце забіць Войкава ў якасці пасланніка СССР, з тым, каб адпомсціць за Расію, за мільёны людзей. Войкаў пасля аказання яму медыцынскай дапамогі на вакзале быў пераведзены ў шпіталь Немаўляці Ісуса, дзе ў 10 гадзін 40 хвілін у той жа дзень памёр у прысутнасці міністра замежных спраў Польшчы Залескага, які наведаў шпіталь ад імя польскага ўрада.

Са шпіталю цела нябожчыка было перавезена ў расійскае прадстаўніцтва, якое выкарыстала гэты выпадак для арганізацыі ў Варшаве камуністычнай дэманстрацыі. На працягу двух дзён труна з прахам была выстаўлена ў зале прадстаўніцтва.

Польскі ўрад выказаў удаве Войкава і ўраду СССР спачуванні і выканаў усе фармальныя абавязкі, звязаныя з наяўнасцю дыпламатычных адносінаў паміж Польшчай і Расіяй.

10 чэрвеня труну перавезлі на Варшаўскі вакзал і адтуль асобным цягніком — у Маскву. За труною па вуліцах Варшавы ішлі ўсе мясцовыя камуністы, прадстаўнікі дыпкорпуса Расіі і Польшчы, польскага ўрада, а таксама аддзел польскага войска, які адначасова аддаваў знакі вайсковай пашаны і ахоўваў парадак настолькі жорстка, што працэсія ішла па абсалютна пустых вуліцах.

Нягледзячы на знакі афіцыйнага шкадавання, амаль усе газеты засведчылі сімпатыі польскага грамадства, якія выклікаў да сябе Барыс Кавэрда сваёй маладосцю і патрыятызмам, нягледзячы на палітычныя складанасці, звязаныя з яго ўчынкам.

Хто быў гэты малады чалавек, які ў тыя чэрвеньскія дні стаў цэнтрам увагі ўсіх сродкаў масавай інфармацыі, палітыкаў рознага колеру і памераў, пісьменнікаў, грамадскіх арганізацый і фашысцкіх, у тым ліку? Чаму лёс звёў яго ў смяротным паядынку з прадстаўніком іншага свету і маралі?

**Са справы Барыса Кавэрды.** Страляў у Войкава Барыс Кавэрда, 19 год, вучань гімназіі рускага грамадства ў Вільні, які быў дапытаны ў якасці абвінавачанага і прызнаў сябе віноўным у свядомым забойстве пасланніка Войкава і заявіў, што ён, працўнік існуючага ў Расіі сацыяльнага і палітычнага строю, вырашыў забіць апошняга як прадстаўніка гэтай улады ў Расіі. Раней ён меў намер выехаць у СССР з тым, каб прыняць актыўны удзел у барацьбе супраць савецкага рэжыму. За дазволам аб выездзе ён звярнуўся ў прадстаўніцтва СССР у Варшаве. Калі яму адмовілі ў яго просьбе, то ён вырашыў здзейсніць учынак пакарання і помсты ў Варшаве. Пры гэтым ужо на першым допыце яшчэ ў будынку вакзала, куды з'ехаліся ўсе прадстаўнікі вышэйшай судовай, паліцэйскай і адміністрацыйнай улады Польшчы, Кавэрда засведчыў, што з пасланнікам Войкавым ён ніколі не размаўляў, ніякіх прэтэнзій да яго асабіста не меў, да палітычных арганізацый не належаў і свой учынак здзейсніў самастойна.

Безумоўна, ні адзін з палітычных бакоў не паверыў заявам маладога тэрарыста. Яшчэ ў 1924 годзе, пасля прызначэння паўнамоцным прадстаўніком Войкава ў Варшаву ў заходнім друку з'явіліся пагрозы белаэмігрантаў-манархістаў знішчыць цара-забойцу. І сапраўды, Пётр Войкаў, у сваім юнацкім мінулым Наум Вейкін, меў зусім непрывабную для еўрапейскага абывацеля біяграфію. Вельмі рана ён далучыўся да рэвалюцыйных спраў. 2 сакавіка 1906 года яго малодшы брат скончыў жыццё самагубствам. А на наступны дзень дырэктар Керчанскай гімназіі, дзе вучыліся браты, перад строем гімназістаў зняў парэзаны ўздоўж парадны партрэт Мікалая ІІ. У разрэзе тырчала запіска: "Нікога не вініце, гэта зрабіў я". І подпіс самазабойцы. Ці ведаў у гэты момант старэйшы брат, стоячы ў шэрагах вучняў, што спрычыніцца да сапраўднага знішчэння цара Мікалая ІІ і яго сям'і? Але адразу ўстаў на тэрарыстычны шлях. Пасля таго як загінуў брат, Пётр прыняў удзел у пакушэнні на ялцінскага градскога начальніка генерала Думбадзе. Баявікі збіраліся ўзарваць памяшканне паліцэйскага пастарунку, калі туды прыбудзе генерал, аднак акцыя праваліласяя. Як заўсёды, знайшоўся правакатар, і героям пачала шукаць паліцыя. Войкаў змог выехаць у Швейцарыю, дзе скончыў фізіка-матэматычны факультэт і пазнаёміўся з Леніным. У траўні 1917 года другім "пламбіраваным вагонам" разам з Мартавым і Луначарскім ён вяртаецца ў Расію. У жніўні афіцыйна ўступае ў партыю бальшавікоў. Расійская кастрычніцкая смута застане яго ў Самарскім гарнізоне, які камандзіруе яго ў Петраградскі саўдэп. Тут ён стане вядомы сваёй прамовай у першым кулямётным палку, якая скончылася масавым збіццём салдатамі афіцэраў. Потым Войкаў паступіць у асабістае падпарадкаванне Свярдлова і заменіць апошняга на яго пасадзе ў Екацярынбургу. Пры яго актыўным удзеле спецыяльны камісар з мандатам Леніна В. Якаўлеў (Мячын) перавёз сям'ю Мікалая ІІ з Табольска ў Екацярынбург.

**Гэта былое Войкава шырока** выплюхнулася на старонкі эміграцкай прэсы ў чэрвеньскія дні 1927 года падчас следства і суда над маладым мсціўцам. Амаль усе газеты цытавалі старонкі кнігі судовага следчага па асабліва важных справах Мікалая Сакалова "Забойства царскай сям'і", якая выйшла ў Берліне ў 1925 годзе. Старонка 204: "17 ліпеня 1918 г. у аптэчную краму Екацярынбурга зайшоў служачы камітэта забеспячэння Зімін і ад імя абласнога камісара Войкава прад'явіў упраўляючаму ліст наступнага зместу: "Прапаную тэрмінова без усялякай адгаворкі і затрымкі выдзеліць з Вашага склада пяць пудоў сернай кіслаты прад'явіцелю гэтага. Абласны камісар забеспячэння Войкаў".

Кіслата была выдадзена Зіміну. Фота за №78 у кніжцы Сакалова перадавала копію патрабавання Войкава".

Старонка 249: "Камісар Войкаў... заўсёды быў адметны сваёй схільнасцю да тэатральных жэстаў, глупства і залішняй

балбатні, асабліва сярод дам. У такім коле яго аднойчы спыталі пра лёс царскай сям'і. Ён, надзьмуўшыся, адказаў: "Свет ніколі і не даведаецца, што мы зрабілі з імі".

Тым не менш свет даведаўся, і кат не абмінуў лёсу ахвяры.

У самым пачатку 1924 года саветы спрабавалі накіраваць Войкава прадстаўніком у Канаду. У той час яна лічылася дамініёнам Вялікабрытаніі. Але ангельскі кароль Георг V быў кузенам Мікалая ІІ. Войкаву адмовілі ў агрэмане, назваўшы "царазабойцам". Тады саветы згулялі інакш, прызначыўшы новаспечанага дыпламата ў Польшчу. Аднак і польскі ўрад перш чым даць згоду на гэта прызначэнне, патрабаваў публічна пацвердзіць няўдзел Войкава ў расстрэле царскай сям'і. Наркам Чычэрын адказаў, што "Войкаў — чалавек неваенны, не меў адносінаў да выканання прыгавору".

Палякі, безумоўна, удзячныя бальшавікам за Рыжскі падзел, з вялікаю неахвотаю, але ж пагадзіліся.

У кастрычніку 1924 года Пётр Войкаў прыехаў у Варшаву і прад'явіў Пілсудскаму вярыцельную грамату. Тут ён апынуўся ў атмасферы жыцця, якое адпавядала яго густу. Прыёмы, шмат прыгожых і даступных паній і паненак... Паводле сцвярджэнняў сучаснікаў, Войкаў у самы цяжкі і галодны час адрозніваўся дэманстратыўным франтаўствам. Ён заўсёды насіў брыджы з шаўковымі панчохамі і шчодра паліваў сябе французскім адэкалонам. Маласімпатычны партрэт новага пасланніка дапаўняла яго жонка, у мінулым дачка капялюшніка Роза Лімонік, падчас службы мужа ў Екацярынбургу сумнавядомая забойца Надзвычайны Камітэт пад мянушкай Кветка (Цветок). Безумоўна, еўрапейскае грамадства было абурана з'яўленнем у Варшаве гэтай жахлівай пары. Незадаволенасць і пагрозы дэманстравалі тагачасныя газеты.

Гэты стомлены ад бальшавіцкага аскетызму былы камісар выклікаў сваімі паводзінамі незадаволенасць самога Сталіна. Тым больш што дазволіў сабе ўмяшацца ў справу савецкай замежнай разведкі, паклаўшы вока на прыгожую эфектную жанчыну і вопытную разведчыцу, засланую ў Польшчу, М.Скакоўскую. Кветкі, падарункі, візіты савецкага дыпламата да прыгажуні не пакінула па-за ўвагаю польскае дэфензіва. Разведчыцу Войкаў праваліў, а разам з ёю правалілася і ўся агентурная сетка. Пасля тэрміна ў вязніцы Скакоўскую дэпартавалі ў СССР, а потым, як было заведзена, без перасадкі яна апынулася ў ГУЛАГу.

За маральнае разлажэнне Яраслаўскі і Сольц выключылі "старога бальшавіка" Войкава з партыі і рэкамендавалі Наркамату замежных спраў адклікаць яго з пасады паўнамоцнага прадстаўніка. Але пакуль варочалася партыйна-наркамаўская бюракратычная машына, грымнуў стрэл Кавэрды.

26 траўня 1927 года Чэмберлен разарваў дыпламатычныя адносіны з СССР і выслаў з краіны ўсіх савецкіх дыпламатаў. Высланы з Лондана Розенгольц ехаў праз Варшаву. Каб сустрэцца з калегаю, на вакзал прыехаў Пётр Войкаў. Тут сустрэў ён сваю смерць пад агульны праклён камуністычнай інтэрнацыянальнай Расіі.

Але ж стрэл Кавэрды выратаваў рэпутацыю Войкава. Усё завярцелася ў зваротны бок. У Варшаву паляцелі пагражальныя ноты з патрабаваннем выдаць забойцу "палымянага рэвалюцыянера". Акцыя Кавэрды разглядалася як праява сістэмнай і планавай барацьбы англійскага і польскага імперыялізму. Другая нота ўзгадвала генерала Булах-Балаховіча і іншых змагароў з саветамі, якія, нягледзячы на дамову, не былі высланы з Польшчы.

Літвінаў патрабаваў дапусціць да следства новага паўнамоцнага прадстаўніка СССР у Польшчы Ульянава. Загадам па Наркамаце замежных спраў быў аб'яўлены двухтыднёвы траур. 11 чэрвеня Войкава хавалі ў Маскве, сабраўшы стотысячны натоўп. Гаварыліся прамовы пра "гідру сусветнай контррэвалюцыі", "нязламанага бальшавіка" і г.д.

Імя Войкава атрымала вуліца і металургічны камбінат у Керчы, сяло ў Крыме, заводы і параход, станцыя метро ў Маскве, шматлікія калгасы і саўгасы, у тым ліку і ў Беларусі.

Не дзіўна, што на гэтым фоне фальшывага героя па-за ўвагаю савецкага чытача засталася галоўная дзеючая асоба тэракту. Савецкія энцыклапедыі і падручнікі ўзгадвалі "белагвардзейца і белаэмігранта" Кавэрду. Дарэчы, ні першым, ні другім ён не быў. Як не быў і фігураю выпадковаю ў гэтай гісторыі.

**Са справы Барыса Кавэрды.** Пратакол судовага пасяджэння ад 15.06.1927 г. Надзвычайны суд у Варшаве. Старшыня суда — І.Гумінскі, пры ўдзеле пракурора К.Рудніцкага. Адвакаты: Павел Андрэеў, Марыян Нядзельскі, Францішак Пасхальскі, Мечыслаў Эцінгер. Пасяджэнне адкрылася ў 10 гадзін 45 хвілін.

Агульная карціна суда. З раніцы будынак суда акружаны натоўпам. Аддзелы паліцыі вельмі слабыя, каб яго стрымаць. Выклікалі дапамогу. Некалькі дам з букетамі кветак. Прыехала мадам Арцыбашава, жонка вядомага пісьменніка. Зала перапоўнена. Прысутнічаюць прадстаўнікі польскай адміністрацыі, суда, пракуратуры, паліцыі. Руская эміграцыя прадстаўлена невялічкімі групкамі на чале з кіраўніком Расійскага камітэта ў Варшаве панам Сямёнавым. Прысутнічала таксама некалькі бальшавікоў з прадстаўніцтва СССР на чале з новым кіраўніком Ульянавым. Сярод сведак — таксама бальшавік — "завхоз" прадстаўніцтва Грыгаровіч. Адказваючы, ён злымі вачамі з-пад ілба разглядаў суд і публіку, якая не шкадавала заўваг у яго адрас, называючы "тыпова крымінальнаю асобаю". Прысутнічала 120 прадстаўнікоў прэсы, у тым ліку "Правды" і "Известий", трымаўшыхся далёка ў баку ад "буржуазнай прэсы". У зале былі таксама прадстаўнікі беларускіх грамадскіх арганізацый і беларускай прэсы, пра што, аднак, дружна не хацелі пісаць ні руская, ні польская газеты.

Пад моцным канвоем Б.Кавэрду ўвялі ў залу суда. Ён адразу заваяваў сімпатыі сваёй усмешкай і выразам твару. У чыстай кашулі і сціплым гарнітуры ён выглядаў зусім маладым хлопчыкам.

"Падсудзімы Барыс Кавэрда, сын Сафрона і Ганны, нарадзіўся ў Віленскай губерні 21 жніўня 1907 года, праваслаўны, хрышчоны ў Індурскай царкве. Месца жыхарства — Вільня. Вучань гімназіі і служачы рэдакцыі штотыднёвіка "Беларускае слова". Судзімы раней не быў".

Першае слова падсудзімага: "Прызнаю, што забіў Войкава, але вінаватым сябе не лічу. Я застрэліў Войкава за ўсё тое, што здзейснілі бальшавікі ў Расіі. Асабіста я яго не ведаў".

З паказанняў сведак: Марыян Ясінскі і Кастусь Дамброўскі, паліцэйскія, якія затрымалі Б.Кавэрду: "...быў абсалютна спакойны, сказаў: я адпомсціў за Расію, за мільёны людзей". Пры ім былі рэвальвер сістэмы "Маўзер" без нумара з пустой абоймай, "Браўнінг" №80481 і абойма з патронамі, 4 патроны да "Маўзера".

Ганна Кавэрда: "Аб забойстве я даведалася з газет. Гэта было нечаканасцю. Барыс заўсёды быў ціхім і сціплым, добрым, рабіў усё, каб маці не пакутавала. Мы, віленскія, жылі ў Вільні перад вайной. У 1915 годзе былі эвакуіраваны ўладамі ў Тамбоў, потым выехалі ў Самару, дзе жылі да 1920 года. Я вярнулася ў Польшчу з дзецьмі, муж яшчэ заставаўся ў Расіі. Галоўным нашым апекуном і кармільцам быў Барыс. Ён працаваў у рэдакцыі "Беларускае слова", быў экспедытарам, а апошні час — і карэктарам... Барыс шмат чытаў, па сваіх поглядах — дэмакрат. Веруючы. Тое, што ён бачыў у Самары, пакінула моцнае ўражанне. У той час мы жылі ў пасёлку Зубчанінскае Самарскай губерні. Яго праследавалі як буржуазнае дзіця. Бальшавікі зруйнавалі школу, у якой ён вучыўся, і царкву, здзекаваліся на вачах дзяцей над святаром, трымалі яго ў хлеве. Сын маёй сястры быў там забіты бальшавікамі. Расстралялі шмат знаёмых. Барыс быў сведкам разгула надзвычайкі".

**З паказання падсудзімага.** Барыс Кавэрда: "Я быў сведкам злачынстваў, што здзяйснялі банды бальшавікоў. Па дарозе дамоў з Расіі ў Польшчу я шмат чуў пра Надзвычайную камісію. Я быў малы, але памятаю, што жыццё было іншым, быў нейкі парадак, а потым наступіў хаос... Я зразумеў, хто вінаваты ў тым, што людзі ператварыліся ў людажэрцаў".

**З прамовы абароны.** Марыян Нядзельскі: "У Расіі бальшавікі запусцілі рухавік знішчэння. Па падліках С.Мельгунова, 1 700 000 чалавек забіты толькі па распараджэнні Надзвычайнай камісіі. Ленін, Троцкі, Бухарын, Дзяржынскі ўхваляюць масавыя забойствы, выказваючы за тэрор як сродак распаўсюджвання камуністычных ідэй. Чым адказала эміграцыя на масавы тэрор? У 1923 годзе Конрадзі забіў у Швейцарыі савецкага прадстаўніка Вароўскага.

А Кавэрда — гэта маленькая трэсачка, прынесеная на хвалях мора крыві з усходу на захад".

Супрацоўнік газеты "Грамадскі голас", у мінулым баявік, зялёнадубец Іўжэнка, вучань Беларускай Віленскай гімназіі і сябра Барыса Сямён Захаронак і іншыя адзначылі, што ён у першую чаргу быў антыкамуністам...

Не апошнюю ролю ў выбары сродку барацьбы адыграў ахвярны матыў. Барыс паходзіў з беларускай сям'і і рана спрычыніўся да беларускай справы. І бацька, і маці мелі пэўную палітычную і грамадскую біяграфію і вядомасць у беларускіх і рускіх эмігранцкіх колах. Маці, пані Ганна, была загадчыцай беларускага прытулку для дзяцей-сірот у Вільні. Дзве дачкі і сын былі навучэнцамі Беларускай Віленскай гімназіі, і толькі ў 7-м класе Барыс перайшоў у гімназію Рускага грамадства, патлумачыўшы свой пераход фінансавымі цяжкасцямі, на самай справе з-за канфліктаў з вучнямі, сімпатызуючымі саветам. Як засведчыла пані Ганна на судзе: "Мы былі рускімі па культуры, але Беларусь ніколі часткай Расіі не лічылася". Бацька быў больш дакладным: "Я — беларус і жонка таксама. Дома мы гаворым па-беларуску, па-польску і па-руску". Сапрон Кавэрда паходзіў з сялян Бельска-Падляшскага павета Гродзенскай губерні. Падчас першай сусветнай вайны быў цяжка паранены пад Смаргонню. На працягу чатырох месяцаў лячыўся ў Маскве, там назіраў кастрычніцкі пераварот. Быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, але ўцёк і перайшоў мяжу ў раёне Нясвіжа. Яшчэ да вайны актыўны сябра партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1922 годзе быў галоўным рэдактарам газеты "Крестьянская Русь", якую фінансаваў Барыс Савінкаў. Некаторыя дакументы з архіва КДБ РБ (зводкі замежнага аддзела АДПУ, агентурныя даныя) сведчаць аб наяўнасці пільнай увагі савецкіх спецслужбаў да гэтай постаці. У 1924—1925 гг. Кавэрда-старэйшы актыўна займаўся вярбоўкай баевікоў-добраахвотнікаў у "Зялёны Дуб". Такім чынам, беларуская справа была справаю сям'і Кавэрды.

Руская белая эміграцыя прыклала шмат намаганняў, каб зрабіць з маладога Кавэрды сапраўднага патрыёта Расіі, усяляк падкрэсліваючы яго быццам бы рускае паходжанне і прыналежнасць да праваслаўя...

Беларускай справе аднолькава не спрыялі ні польскія акупацыйныя ўлады, ні рускія вялікадзяржаўнікі. Нацыянальнае самавызначэнне ніякім чынам не спрыяла паляпшэнню матэрыяльнага становішча Ганны Кавэрды. Хутчэй наадварот.

Эмігранцкае вядомае выданне "Руль" пастаралася пазбегнуць тэндэнцыйнасці ў гэтым далікатным пытанні і спаслалася на матэрыялы следства: "Кавэрда на допыце заявіў, што ён не з'яўляецца рускім эмігрантам, а адчувае сябе беларусам" ("Руль", 11 чэрвеня 1927 г.)

Польскія крыніцы сведчылі, што малады тэрарыст — сын полькі і рускага, нягледзячы на тое, што Сапрон Кавэрда ўвесь час падкрэсліваў сваю беларускасць, а пані Ганна ніколі не лічыла сябе полькай. Трэба сказаць, што пытанне аб нацыянальнай прыналежнасці Б.Кавэрды з'явілася зусім не выпадкова. Адчуваецца, яно было вельмі няпростым і балючым для маладога чалавека. Адзін з аглядальнікаў судовага працэсу адзначыў стрыманасць і невыразнасць пытання нацыянальнасці і мовы падсуднага і патлумачыў гэта асаблівымі мясцовымі ўмовамі. Пад "мясцовымі ўмовамі" ён меў на ўвазе гнюсную практыку ўлад абвінавачваць беларускую апазіцыю ў сімпатыях да бальшавіцкага рэжыму. Польская акупацыйная прапаганда ілжыва сцвярджала, што беларус — гэта абавязкова камуніст. На самай справе антыдэмакратычная антыбеларуская палітыка польскіх улад забяспечвала хуткі рост антыпольскіх настрояў сярод беларускага насельніцтва і вымушала беларускую апазіцыю шукаць сабе саюзнікаў нават у камуністычных колах.

З другога боку — беларускі рух, да якога спрычыніўся малады Кавэрда, перажываў не лепшыя часы. Беларуская антысавецкая апазіцыя дэманстравала слабасць, адсутнасць адзінства, буйныя палітычныя памылкі і паражэнні. Гэта і рашэнні Берлінскай канферэнцыі аб прызнанні БССР адзінай і легітымнай формай беларускай дзяржаўнасці і ад'езд у БССР некаторых вядомых беларускіх дзеячаў, і наяўнасць некалькіх супрацьлеглых плыняў у беларускім лагеры: паланафільскай, прарасійскай, пракамуністычнай. Па сутнасці, прыпынілася баявая дыверсійная дзейнасць беларускіх арганізацый. Маладосць не паважае слабасць і свой выбар робіць, як правіла, на карысць сілы.

Учынак Барыса быў выклікам недальнабачнасці і баязлівасці дарослых, але не адбыўшыхся палітыкаў, пратэст супраць фатальнай асуджанасці. Ён засведчыў усю глыбіню расчаравання і болю маладых. Гэта была спроба ператварыць слабасць у моц, надаць акту забойства характар сацыяльна-гістарычнага ахвяравання.

Да канца чэрвеня 1927 года быў вядомы прысуд. Нягледзячы на тое, што абаранялі Кавэрду лепшыя юрысты Польшчы, ён атрымаў па максімуму — 15 год турэмнага зняволення. Яшчэ адзін рэверанс удзячнай Польшчы ў бок бальшавіцкай Расіі. Амністыя дазволіла скараціць тэрмін да 10 год.

З "Беларускае Волі" — (скарочана).

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

**Вярхоўная Рада Украіны звярнулася ў Цэнтрвыбаркам з прапановай зняць кандыдатуру Леаніда Кучмы з рэгістрацыі кандыдатам на прэзыдэнцкіх выбарах.** На думку парлямэнтарыяў, падчас перадвыбарчай кампаніі Кучма ўжыў сваю ўладу, каб манапалізаваць электронныя і друкаваныя СМІ, а таксама выкарыстоўваў уладныя і сілавыя структуры для забеспячэння сабе перамогі.

**У Вялікабрытаніі паліцыя перахапіла буйнейшую партыю падробленай «Віягры».** Як сведчаць эксперты, ужыванне падробак магло выклікаць смерць чалавека. Кошт партыі падробленага сродку ад імпатэнцыі складае каля аднаго мільёна фунтаў стэрлінгаў (1,6 мільёна долараў). Затрыманыя чатыры брытанцы.

**Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус лічыць, што ўжо праз некалькі месяцаў яго краіне прапануюць увайсці ў Эўрапейскі Саюз.** Падчас свайго візіту ў Чэхію ён заявіў, што чакае прапановаў аб уступленні ў Еўрасаюз ужо ў снежні гэтага года. Адамкус таксама назваў прыкладны тэрмін уступлення Літвы ў NATO: пачатак наступнага стагоддзя.






На Беларусі — "Свіньні зводзяцца, а свінства плодзіцца!"





IN MEMORIAM

Сьв. Памяці

## МІКОЛА ВАЙТОВІЧ

21.1.1928 — 14.9. 1999

адыйшоў на вечны супачынак 14 верасьня 1999 г. на 71-м годзе жыцьця, пакінуўшы ў смутку жонку Галіну (Аўгустыновіч), сыноў Валодзю і Грышу, унука Колю, сясьцёр — Раю і Валю з сем'ямі ды шмат прыяцеляў, землякоў і суседзяў.

Сьв. пам. Мікола быў сталым чытачом нашае газэты і ахвярадаўцам у яе выдавецкі фонд.

Паховіны адбыліся з Праваслаўнае Царквы Хрыста Спаса на Greenwood Cemetery in Rockford, Il. (недалёка Чыкаго).

Няхай амэрыканская зямелька будзе яму пухам, а сны аб Палесьсі-Беларусі хай сьняцца яму вечна.

Сьпі пад курганам герояў,
Сьпі працаўнік і змагар.
Несены верна табою,
Ціха схіліўся штандар!

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

Ул. Р.

## Зьездаў БНФ будзе два

Алесь ШМЯЛЁЎ

Зьвесткі аб мяркуемым «правільным» зьездзе БНФ, які будзе праводзіць «пазьнякоўская» частка Фронту, аб якіх пісалі НАВІНЫ яшчэ 2 тыдні таму, — пацьвердзіліся.

Як паведаміў былы сакратар Управы БНФ Анатоль Крываротт, якога апошні Сойм зьняў з гэтай пасады, зьезд партыі пачне працу 26 верасьня а 10-ай гадзіне раніцы. Месца правядзеньня зьезду арганізатарамі замоўчваецца. Цікава, што Сойм большасьцю галасоў прыняў рашэньне праводзіць агульны зьезд партыі і руху 30—31 кастрычніка, але «пазьнякоўцы» лічаць, што гэтае рашэньне неправамоцнае.




## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | | |
|---|---|---|
| 213. Сыльвэстар Будкевіч | (Англія) | $20.oo |
| 214. Др. Алесь Туркоўскі | | $50.oo |
| 215. а. Максім Таўпека | (Канада) | $10.oo |

Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступным № нашае газэты...

**Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Прускі.**

**Калі Вы, паважаны чытач, з нейкіх прычын, не змаглі пераслаць Вашую ахвяру дасюль, зрабіце гэта цяпер. Акцыя збору ахвяраваньняў даходзіць да канца. Чакаем на водгукі... Дзякуем за ўвагу!**

**Мы змагаемся за беларускую БЕЛАРУСЬ!**

# Дзеля чаго жывеш, чалавек?

Выпадкова знайшоў у асабістым архіве даўні нумар івацэвіцкай газеты "Кастрычнік" за верасень 1991 года. Сёння ўжо не верыцца, што афіцыйная раённая газета магла апублікаваць такое. Але ж быў час... Час падзеяў, час уздыму, час веры, што наша жыццё, нарэшце, зменіцца ў лепшы бок. У бок праўды, у бок справядлівасці, у бок нацыянальнага адраджэння.

Сёння, беручы ў рукі старыя нумары рэспубліканскіх газет "Советская Белоруссия", "Знамя юности", "Звязда", не кажучы ўжо пра "Народную газету", таксама не верыцца, што некалі яны друкавалі вялікія, амаль на старонку, артыкулы і інтэрв'ю Зянона Пазьняка, Юрася Хадыкі, іншых сумленных людзей Беларусі. Сапраўды, то быў час надзей. Надзей на добрае.

І ўсё гэта раптам абрынулася ў прорву. Наступіў час, якому нават цяжка даць вызначэнне. Усё быццам перавярнулася з ног на галаву. Законы ператварыліся ў "высочайшие" ўказы і дэкрэты, а на ахову іх пастаўлены яго вялікасць гумовы "дэмакратызатар". На фоне сапраўднай галечы большасці беларусаў распачаліся бясконцыя "пиры во время чумы" пад эгідай розных фестываляў, шоу, базараў, "дажынак" і г.д. Святкавалі занядбаныя, падманутыя яшчэ ў савецкую эру, адурманеныя людзі. Няхай у дзень свята яны паздымалі з сябе зашмальцаваныя фуфайкі, гумовыя ды кірзавыя боты. Але пры іх засталіся іхнія парэпаныя, чорныя ад холаду і зямлі рукі, зрэзаныя ад паўсядзённых клопатаў і беспрасветнай працы глыбокімі маршчынамі твары. Няўжо і на самай справе ва ўсе часы людзям хацелася толькі "хлеба и зрелищ!"? А як быць з пачуццём чалавечай і нацыянальнай годнасці, з уласнай гісторыяй, роднай мовай?

Некалі я быў журналістам з вышэйшай партыйнай адукацыяй. І работа складвалася, і чытачы добра ўспрымалі многія мае публікацыі. Прызнаюся, за некаторыя з іх мне сёння сорамна, вельмі сорамна. Ды не ў гэтым справа. І раней я чуў, што журналістыка — "старажытная прафесія". Накшталт той, што датычыцца жанчын вядомых паводзінаў. Апошнія мо не бачылі іншага выйсця, каб пражыць, каб выжыць. Але некаторыя сённяшнія журналісты?.. У іх жа ёсць рукі, ногі, галава, іншымі словамі, не памерлі б яны з голаду. Ды не: спадобіліся тым жанчынам, абы толькі мець свой кавалак булкі з маслам. Апраўдваюць беззаконне, гвалт, што пануюць у краіне, здачу яе незалежнасці суседняй дзяржаве.

Няўжо так танна каштуе чалавечае сумленне, пачуццё ўласнай годнасці? Я, былы газетчык, а сёння качагар не пытаю такіх журналістаў, якія здольны на бессаромную хлусню. Мне сорамна за іх, як сорамна за многіх пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, дыктараў, настаўнікаў, медыкаў, інжынераў, якія дзеля ўласнага дабрабыту і спакою не думаюць пра заўтрашні дзень Беларусі, не трывожацца за яе лёс і лёс будучых пакаленняў. Як можна так жыць? Не ўкладваецца ў галаве.

...Я перачытваю свой артыкул, надрукаваны сем гадоў таму, і ўспамінаю, як тады выскачыў з залы, дзе праходзіла раённая нарада, каб прасіць прабачэння ў асвістанага лектара, які шчыра хацеў данесці яшчэ нязвыклую для многіх праўду пра вучэнне Маркса — Энгельса — Леніна. Я хацеў папрасіць прабачэння за тую нашу "інтэлігенцыю", якую Васіль Гроднікаў назваў "чэрню". Мне хацелася, каб прыезджы лектар не думаў дрэнна пра ўвесь наш раён, бо "партыйна-гаспадарчы актыў" — яшчэ далёка не ўсе жыхары краю.

Колькі сябе помню, я задумваўся над тым: чаму чалавек так лёгка губляе свае лепшыя чалавечыя якасці? Разменьвае іх на кватэры, пасады, аклады, на, як яму думаецца, "павагу" начальства. Міжволі ўспамінаюцца радкі Я.Яўтушэнкі: "Как часто выраженье "вышел в люди" обозначает: от людей ушел". І такое мы бачым на кожным кроку. Асабліва сёння. Не палохаюць такіх людзей ні будучыя папрокі нашчадкаў, ні Боскі суд.

А будзе, абавязкова будзе і тое, і другое. Дарэмна мы спадзяёмся на іншае, ой як дарэмна.

Дзеля чаго жыве чалавек? Варта аб гэтым часцей думаць. Я гляджу з замілаваннем на бел-чырвона-белы сцяг на сцяне майго пакоя з прымацаваным да палотнішча знакам Першага з'езду беларусаў свету, на якім нашчасціла пабыць, на выяву "Пагоні" і думаю: "Усё ж гэта, святое для нас, беларусаў, вернецца. Абавязкова вернецца". Крыўдна, нават вельмі балюча будзе, калі гэты светлы час не сустрэнуць вялікія беларусы Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Сяргей Грахоўскі і іншыя славутыя сыны бацькаўшчыны. Не, яны абавязкова павінны дажыць да "залацістага, яснага дня", які прадказваў нам яшчэ адзін вялікі беларус Максім Багдановіч.

А можа, дзе яшчэ ёсць адна Беларусь? І там жывуць Усяслаў Чарадзей, Вітаўт Вялікі, Францішак Скарына, Францішак Багушэвіч, Кастусь Каліноўскі, Тадэвуш Касцюшка, Янка Купала, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш, многія-многія іншыя беларусы, якія сваё ўласнае шчасце бачылі ў адраджэнні Бацькаўшчыны? Можа, і так, бо гэтыя людзі не маглі знікнуць бясследна. Як не зніклі і не знікнуць ніколі Уладзімір Караткевіч і Алесь Адамовіч, Пімен Панчанка, і Максім Танк...

Цяжка, вельмі цяжка жыць толькі марай пра сапраўдную Беларусь — суверэнную, дэмакратычную, еўрапейскую, са сваёй мовай, гісторыяй, са сваім гонарам. Хочацца не ў марах, а наяве бачыць такую Беларусь. Жыць у ёй хочацца. І каб жылі ў такой Беларусі яе лепшыя сыны і дочкі, у каго за плячыма не адзін дзесятак гадоў. Хочацца, каб кожны з нас з гонарам казаў: "Я — за вольную Беларусь!".

**Мікалай РЫМАЧ.**

*г.Івацэвічы.*

## АГУЛЬНЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКА-БРЫТАНІІ (ЗБВБ)

Гадавы зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вяліка-Брытаніі адбыўся у сыботу 11-га верасьня 1999 г. у залі Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

Зьезд адчыніла старшыня Галоўнае Управы спд. Л. Міхалюк і папрасіла а. А. Надсона пачаць малітваю працу зьезда. Пасьля малітвы мандатная камісія ў складзе С. Будкевіча, І. Тура і сп. Жакеля праверыла картатэку сяброў, выявіла кворум і палічыла зьезд паўнамоцным. У прэзыдыюм зьезду былі абраныя П. Шаўцоў — старшыня, і два сакратары: І. Рабацэвіч і С. Будкевіч.

Справаздачу ўступаючай управы здала старшыня ЗБВБ спд. Л. Міхалюк, а справаздачу скарбніка прачытаў Др. Гурло. Справаздачы з аддзелаў і іхнае маёмасьці здалі: з лёнданскага — Др. Гурло, з Брадфордзкага — Весяловіч і Манчэстарскага Л. Міхалюк. У часе працяглае дыскусіі над справаздачамі, была выказаная прапанова прадаць Манчэстарскую маёмасьць (дом), дзеля малога з яго даходу. Зьезд на гэта даў згоду.

Сп. М. Баяроўскі ўнёс прапанову выказаць абсалютарыюм уступаючай управе, што было прынята аднагалосна.

У новую Галоўную Управу ЗБВБ былі выбраныя: старшыня — Л. Міхалюк, заступнікам — М. Дзейка, сакратаром — І. Рабацэвіч і скарбнікам — Др. Гурло.

У сябры Управы ўвайшлі : А. Сенько і П. Шаўцоў, а ў наглядную Раду — Іваноў, Ражанец і Будкевіч.

У далейшым а. А. Надсон падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаньнямі з нядаўняе паездкі ў Беларусь...

Агульны Гадавы Зьезд ЗБВБ закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Жанчыны падрыхтавалі смачны пачастунак пасьля якога трэба было ехаць дамоў у розныя куткі Англіі.

х - х - х

...і таксама нядаўна, 5-га верасьня праваслаўны прыход Жыровіцкае Божае Маці ў Вольвэргамтоне сьвяткаваў 25-ці годзьдзе свайго існаваньня.

На юбілейную Багаслужбу, якую адправіў а. Іскрыцкі ў саслужэньні а. Сідаровіча і дыякана ангельца, прыехалі вернікі з іншых гарадоў Англіі. Прыгожа сьпяваў царкоўны хор. У канцы Багаслужбы а. Сідаровіч адправіў малебень за Беларусь і яе народ.

Прыгожая юбілейная ўрачыстасьць адбылася ў блізкім гатэлі. Арганізавалі гэтую ўрачыстасьць — А. Марочка і У. Мядзёлка. Пры нагодзе сп. У. Мядзёлка расказаў прысутным пра гісторыю свайго праваслаўнага прыходу Жыровіцкае Божае Маці. У далейшым ад прыходу было перададзена а. Сідаровічу 100 анг. фунтаў на дзіцячы 'госпіс' у Менску. Агулам а. Сідаровіч сабраў на гэтую мэту 600 анг. фунтаў ад іншых прыходаў і гэтыя грошы былі перададзеныя ў Менск.

Урачыстасьць прайшла ў мілай, сяброўскай атмасфэры. Арганізатары са саёй задачай справіліся вельмі добра.

**Сыльвэстар Будкевіч (Англія)**

НАШУ ГАЗЭТУ ЧЫТАЮЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЎМЕЮЦЬ ДУМАЦЬ...